# Голас Радзімы

№ 9 (2151)
1 сакавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


## БІЯТЛОН 1990










Спартыўны комплекс «Раўбічы». Міжнародны саюз сучаснага пяцібор'я і біятлона [УІПМБ] чацвёрты раз выбраў яго месцам правядзення чэмпіянату свету па біятлону. Гэта рашэнне — прызнанне вялікага ўкладу Беларусі ў справу развіцця міжнароднага спорту.

18 лютага адбылося афіцыйнае адкрыццё чэмпіянату. Яно стала яркім і запамінальным [на здымках] для яго ўдзельнікаў, аматараў спорту Мінска і ваколіц, гасцей з іншых рэспублік і з-за мяжы. Але, нягледзячы на тое, што аргкамітэт і спартыўная грамадскасць Беларусі і яе сталіцы зрабілі ўсё неабходнае, каб стварыць найлепшыя ўмовы для спаборніцтваў, яны не дайшлі нават да свайго апагея. Чаму!... Пра гэта нашы чытачы даведаюцца, калі прачытаюць матэрыял «Дзень першы і... апошні», змешчаны на 8-й старонцы.

Фота Ю. ЗАХАРАВА.

У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БССР

## ЗА МІЖНАРОДНАЙ ДАПАМОГАЙ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савет Міністраў Беларускай ССР прынялі зварот да парламентаў, урадаў, міжнародных арганізацый, суайчыннікаў, усіх людзей добрай волі. У ім гаворыцца:

Аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 26 красавіка 1986 года, якая з'явілася па сваіх маштабах і выніках экстрэмальнай экалагічнай з'явай не толькі нацыянальнага, але і міжнароднага маштабу, прынесла вялікую бяду народу Беларусі.

Рознай ступені радыеактыўнаму забруджванню падвергнута значная частка тэрыторыі рэспублікі, дзе жыве звыш 2,2 мільёна чалавек. Беларусь страціла каля 20 працэнтаў сельскагаспадарчых угоддзяў. Перасталі існаваць многія дзесяткі населеных пунктаў—іх жыхары эвакуіруюцца ў чыстыя ад радыяцыі раёны. Да гэтага часу выяўляюцца новыя плямы радыяцыйнага забруджвання.

Народам і ўрадам зроблена і робіцца нямала для ліквідацыі вынікаў гэтай трагедыі, для аднаўлення здароўя пацярпеўшых ад радыяцыі людзей. Але вынікі чарнобыльскай бяды аказаліся значна больш маштабнымі і сур'ёзнымі, чым гэта ўяўлялася многім, у тым ліку нават і буйным вучоным і спецыялістам.

Каб адолець гэту бяду, супраць яе патрэбны аб'яднаныя намаганні.

Праяўляючы вялікую заклапочанасць станам здароўя людзей, і перш за ўсё дзяцей, якія пацярпелі ад радыяцыі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савет Міністраў Беларускай ССР звяртаюцца да парламентаў, урадаў, міжнародных арганізацый, суайчыннікаў, усіх людзей добрай волі з заклікам аб аказанні ўсямернага садзейнічання і дапамогі Беларускай ССР у прыкладаемых ёю намаганнях па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Любая дапамога будзе сустрэта з глыбокай удзячнасцю народам Беларусі.

АД КІРАЎНІЦТВА КРАІНЫ

## ЗАКЛІК ДА ЗГОДЫ І АДЗІНСТВА

У сувязі са складанай унутранай абстано[illegible]й у краіне Вярхоўны Савет СССР прыняў за[illegible] у якой заклікаў народ абараніць дэмакраты[illegible]ныя заваяванні перабудовы, будаваць прававую дзяржаву, не паддавацца правакацыям.

Яшчэ праз некалькі дзён савецкія сродкі масавай інфармацыі абвясцілі зварот ЦК КПСС «Да працоўных краіны». У ім гаворыцца, што наступіў цяжкі момант нашай гісторыі, ад якога [illegible] многім залежыць далейшае жыццё краіны і [illegible]да.

У ходзе разгорнутай у краіне дыскусіі [illegible]дзе прынцыповая размова аб фундаментальным абнаўленні грамадскага будынка, аб вырашэнні штодзённых клопатаў і патрэб. Многае не задавальняе ў сённяшнім жыцці, выклікае неспакой. Добра зразумелыя вытокі абурэння працоўных, калі яны сутыкаюцца з фактамі безгаспадарчасці і некампетэнтнасці, безадказнасці і злоўжыванняў. Савецкія людзі з болем і трывогай рэагуюць на вострыя міжнацыянальныя канфлікты, экстрэмізм, грубыя парушэнні сацыялістычнай законнасці і правапарадку.

Зусім ясна, што толькі намаганні ўсяго народа, намаганні неадкладныя і рашучыя здольныя вывесці краіну з цяперашняга складанага стану. Цяпер, як ніколі, патрэбны згода і адзінства дзеянняў, рашучасць абараніць перабудову, упэўнена рухацца наперад на шляхах сацыялістычнага абнаўлення.

Нельга дазволіць, каб распераліся і ўзялі верх тыя, хто, абвяшчаючы перабудовачныя лозунгі, па сутнасці вядзе атаку на перабудову, ставіць на мэце свае карыслівыя інтарэсы, славалюбівыя амбіцыі, падштурхоўвае народ да грамадзянскай канфрантацыі, дзейнічаючы па прынцыпу: «чым горш, тым лепш».

Менавіта пад уздзеяннем такіх экстрэмісцкіх сіл па краіне пракацілася нямала маніфестацый, якія пачыналіся пад лозунгамі абнаўлення, а заканчваліся антысавецкімі заклікамі і беспарадкамі, хуліганскімі выхадкамі і пагромамі, горам і пакутамі людзей.

Гэта недапушчальныя і нецярпімыя дзеянні. Яны павінны быць рашуча асуджаны.

ЦК КПСС заклікае камуністаў і беспартыйных, рабочых, сялян і інтэлігентаў, прафсаюзы і камсамол, мужчын і жанчын, моладзь і ветэранаў скрозь і ўсюды аберагаць закон, прынцыпы дэмакратыі, даваць адпор усім, хто падштурхоўвае да хаосу, правакуе канфлікты, нянавісць і варожасць, стварае нестабільнасць у грамадстве. Праваахоўныя органы закліка765ны строга сачыць за захаваннем правапарадку, рашуча спыняць любыя антыканстытуцыйныя дзеянні, абараняць людзей.

Вывесці краіну з цяперашняй складанай сітуацыі, павярнуць яе на шлях эканамічнага росту, сацыяльнага здароўя, дастойнага жыцця можна толькі спалучэннем адказнасці і разважнага сэнсу, законнасці, дысцыпліны і дэмакратыі, сумленнай працы.

ЗАХАПЛЕННІ

## МУЗЕЙ КОСМАСУ

Ён бачыў старты першых савецкіх касманаўтаў, многіх ведаў асабіста. У шасцідзесятыя гады брэстаўчанін Аляксандр Ратнікаў працаваў на савецкім касмадроме Байканур. Цяпер ён—уладальнік унікальных рэліквій, сувеніраў. Усё гэта займае ганаровае месца ў кватэры Аляксандра Ратнікава. Аўтографы касманаўтаў, фатаграфіі, зямля, апаленая рухавікамі ракет, што ўзляталі ў космас, многія іншыя цікавыя экспанаты расказваюць пра асваенне космасу савецкай навукай.

Цяпер на Брэстчыне тры экспазіцыі прысвечаны космасу. Адна з іх разгорнута ў старым самалёце, які «прызямліўся» назаўсёды на адной з плошчаў Брэста. Самы папулярны музей—у вёсцы Тамашоўка, што пад Брэстам. Тут нарадзіўся першы беларускі касманаўт Пётр Клімук. Ён і дапамог заснаваць усе тры музеі, прысвечаныя нялёгкаму шляху людзей да таямніц Сус

ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА

## КАТЭДЖЫ ДЛЯ РАБОЧЫХ

Сярод многіх навабудоўляў Брэста [illegible]больш значная завяршаецца на паўночна-захо[illegible] ускраіне, паміж ракой Мухавец і лясным масівам. У гэтым маляўнічым месцы вырастаюць сотні катэджаў. Іх узводзяць для сябе рабочыя буйных заводаў, размешчаных на ўскраіне горада. Прычым кожны забудоўшчык сам выбірае сабе праект, і таму архітэктура кварталаў, узгодненая з агульным планам, надзвычай разнастайная. Уладальнікі гэтага камфартабельнага жылля будуць мець прысядзібны зямельны ўчастак.

Такое будаўніцтва—справа не танная. Але насустрач рабочым пайшлі прадпрыемствы, дзе яны працуюць. Значная частка сродкаў выдзелена беззваротна. Другая частка гэтых сродкаў выдадзена ў выглядзе льготнага крэдыту з выплатай, разлічанай на многія гады.

Горад Брэст—адзін з пачынальнікаў падобнага метаду вырашэння жыллёвай праблемы ў Беларусі. Яго вопыт прымяняецца ў многіх іншых гарадах.

ПЕРАДВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ







**У дні, што засталіся да 4 сакавіка, дня выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і народных дэпутатаў мясцовых Саветаў, па ўсёй рэспубліцы праходзяць перадвыбарчыя сходы і мітынгі, на іх фарміруюцца пазіцыі выбаршчыкаў. Ад зробленага імі выбару залежыць, якім будзе беларускі парламент. Адзін з мітынгаў адбыўся ў Мінску ля Палаца культуры чыгуначнікаў. Давераныя асобы і кандыдаты ў дэпутаты выказвалі перадвыбарчыя платформы, адказвалі на шматлікія пытанні выбаршчыкаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае кандыдат у народныя дэпутаты БССР беларускі мастак А. МАРАЧКІН; агітацыя за кандыдата.**

ГРАМАДСКАЯ АКЦЫЯ



**25 лютага, у нядзелю, за тыдзень да выбараў, у Мінску адбыўся так званы санкцыяніраваны (з дазволу гарадскіх улад) мітынг. Ён быў арганізаваны Беларускім народным фронтам «Адраджэньне». Прысутнічалі на ім таксама кіраўнікі Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі. Рэзалюцыя, прынятая на ім, сведчыць аб імкненні БНФ заняць лідэрскія пазіцыі ў палітычным жыцці. Па заявах арганізатараў мітынга, у ім прыняло ўдзел больш 100 тысяч чалавек, афіцыйныя колы падаюць лічбу 10—15 тысяч, а навочныя сведкі называюць не больш 20 тысяч.**

ФОНД СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

## У НАКІРУНКУ АДРАДЖЭННЯ

— Мы хадзілі па Мірскаму замку, глядзелі на разбураную капліцу, глядзелі на некалі жывое цела гэтага прыгожага ансамбля і думалі пра тое, што гэта прававобраз цяпер усяго славянства, паўразбуранага, якому нездаровіцца, якое не пазнае самога сябе...

Так гаварыў рускі пісьменнік Юрый Мядзведзеў, намеснік старшыні Міжнароднага фонду славянскай пісьменнасці і славянскіх культур падчас устаноўчай канферэнцыі Беларускага аддзялення гэтага фонду, што адбылася на пачатку лютага ў мінскім Доме літаратара.

Сцены гэтага будынка на вуліцы Фрунзе многае чулі за свой адносна кароткі век. Але, бадай, упершыню можна было пачуць тут адразу такое мноства славянскіх імёнаў: браты Кірыла і Мяфодзій, Ефрасіння Полацкая, Клімент Ахрыдскі, Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Аверкій Макееў... Розныя людзі, сыны і дочкі розных часоў і народаў—балгары, беларусы, рускія... І ўсе носьбіты, стваральнікі, прадаўжальнікі магутнай культуры славян.

Садзейнічаць развіццю беларускай і іншых славянскіх культур, іх узаемадзеянню, адраджэнню духоўнага, інтэлектуальнага багацця народаў, захаванню культурнай спадчыны, спрыяць гарманізацыі міжнацыянальных адносін—такая асноўная задача вызначана ў статуце Беларускага аддзялення славянскага фонду.

Заснавальнікамі аддзялення сталі больш як дваццаць арганізацый і прадпрыемстваў рэспублікі, сярод якіх—Саюзы пісьменнікаў і журналістаў БССР, Таварыства кнігалюбаў, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду міру, Беларуская праваслаўная царква і іншыя.

Сустаршыня савета Фонду славянскай пісьменнасці і славянскіх культур кавалер ордэна «Кірылы і Мяфодзія» пісьменнік і перакладчык Ніл Гілевіч, адкрываючы ўстаноўчую канферэнцыю Беларускага аддзялення, падкрэсліў, што неабходна аб'яднаць намаганні ўсіх славянскіх народаў у развіцці нацыянальных культур.

З дакладам аб задачах і перспектывах дзейнасці фонду выступіў пісьменнік Леў Карайчаў. Першачарговыя з іх—падрыхтоўка высокакваліфікаваных кадраў славістаў, падтрымка дзейнасці музеяў, бібліятэк, правядзенне выставак, аўкцыёнаў, канцэртаў...

Задачы гэтыя і вялікія, і складаныя, і тэрміновыя, бо стан нашай мовы, нацыянальнай культурнай спадчыны выклікае вялікую трывогу і заклапочанасць ва ўмовах агрэсіўнага націску так званай масавай культуры, у аснове якой ляжыць збедненая ці камерцыялізаваная форма дэнацыяналізаванай культуры.

І адным з першых крокаў на гэтым няпростым шляху абуджэння стане Усесаюзнае свята славянскай пісьменнасці і славянскіх культур, што адбудзецца ў беларускай сталіцы 24—27 мая гэтага года, у арганізацыі і правядзенні якога навастворанаму Беларускаму аддзяленню славянскага фонду актыўна дапамагае і Генеральнае консульства Народнай Рэспублікі Балгарыі ў Мінску. І, як сказаў на ўстаноўчай канферэнцыі новага грамадскага інстытута балгарскі консул Пётр Куцараў, «ва ўмовах новага палітычнага мыслення і новых міжнародных адносін, паглыблення і пашырэння навукова-даследчай работы ва ўсіх галінах славістыкі абмен каштоўнасцямі і ўзаемабагачэнне славянскіх культур мае асаблівае значэнне».

Старшынёй Беларускага аддзялення Міжнароднага фонду славянскай пісьменнасці і славянскіх культур стаў паэт, рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў.

## ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# ПРОЦІСТАЯННЕ І ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ

**ІНТЭРВ'Ю «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» ДАЕ СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖТЭЛЕРАДЫЁ БССР, ВЯДОМЫ ПАЭТ І ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН**



**Калі я першы раз звярнулася да Генадзя Бураўкіна з просьбай даць інтэрв'ю для «Голасу Радзімы», ён адказаў: «Згодны. Але толькі пасля сесіі». Сесіі Вярхоўнага Савета БССР, на разгляд якой было вынесена «моўнае» пытанне, паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін надаваў вялікае значэнне. З пытання пра гэту падзею і пачалася гаворка ў кабінеце старшыні Дзяржтэлерадыё БССР.**

**— Ці апраўдала гэта сесія вашы спадзяванні, Генадзь Мікалаевіч?**

— Пры ўсіх заўвагах, і нават прэтэнзіях, якія можна прад'явіць да яе ходу, сесія гэта ў многім гістарычная для нашай рэспублікі, для нашага народа: яна прыняла Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, аб функцыяніраванні іншых моў на тэрыторыі рэспублікі, аб прызнанні рускай мовы мовай міжрэспубліканскіх і нават міжнацыянальных зносін, аб забеспячэнні свабоднага развіцця і свабоднага карыстання іншымі мовамі народаў Савецкага Саюза для тых людзей, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. Цяпер пра тое, што было на сесіі... Скажу шчыра, што чакаў большых спрэчак і большых сутыкненняў думак. Калі падобныя законы прымаліся ў нашых суседзяў — малдаван, прыбалтаў, вакол іх адбывалася многа непатрэбных дыскусій, залішне гарачых спрэчак, патрабаванняў і нават ультыматумаў. У нас такога не адбылося, і, думаю, сведчыць гэта пра дзве рэчы: пра асаблівасці беларускага нацыянальнага характару і пра тую сур'ёзную, спакойную работу, якую зрабіла моўная камісія пры падрыхтоўцы Закона аб мовах. У пераважнай большасці выступленняў на сесіі былі рэальнае разуменне становішча, у якім апынулася наша родная мова, а значыць і культура, і жаданне з такога становішча як мага хутчэй выйсці.

**— Дзяржаўнасць беларускай мовы замацавана Законам. Ці значыць гэта, што самае галоўнае ў адраджэнні нашай нацыянальнай мовы зроблена?**

— Ажыццёўлены справядлівы, дзяржаўны, гістарычны акт. Але я думаю, што галоўнае яшчэ наперадзе. Закон трэба ўвесці ў дзеянне. Лічу, што ў тым выглядзе, у якім ён прыняты, — гэта закон сённяшняга дня, ён рэальна ўлічвае становішча і беларускай, і рускай моў у рэспубліцы, улічвае цяжкасці і бачыць шляхі іх пераадолення. Прыняцце Закона — гэта пачатак агромністай работы па адраджэнню нашай мовы, развіццю культуры, пазнанню гісторыі, а гэта значыць, па выяўленню патэнцыялу нашага народа, у якім я ніколі не сумняваўся.

**— З усіх сродкаў масавай інфармацыі тэлебачанне, бясспрэчна, найбольш даступнае, папулярнае і аказвае найбольшае ўздзеянне — эмацыянальнае, духоўнае. Ці ўсё магчымае робіць Беларускае тэлебачанне для абуджэння нашай нацыянальнай самасвядомасці, адраджэння мовы?**

— Каб я сказаў, што зроблена ўсё магчымае, то гэта было б і няпраўда, і пераацэнка таго, што мы зрабілі. Каб сказаў, што мы на нейкім непрыкметным месцы, то было б таксама несправядліва. Хацеў бы я вярнуцца трохі назад і адзначыць, што якраз у тыя часы, калі нават падымаць пытанне аб дзяржаўнасці беларускай мовы лічылася бясспрэчным нацыяналізмам, мы нашай роднай мове імкнуліся аддаць належнае і стараліся, каб большасць перадач вялася па-беларуску. Нас жорстка крытыкавалі за памылкі. І правільна крытыкавалі, але не ўлічвалі, што тэлебачанне — люстэрка, якое адбівае тое, што мы маем у рэальнасці, крытыкуючы тэлебачанне, яны крытыкавалі сістэму, якая так выхавала людзей, што яны забылі сваю родную мову. А мы імкнуліся, каб і на радыё, і на тэлебачанні беларуская мова стала рабочай. Іншая справа спецыяльныя праграмы, што былі накіраваны і на прапаганду, і на развіццё мовы, і на заахвочванне людзей да праблем гісторыі, і да іншых праблем, звязаных з нацыянальнай культурай. Успамінаю, калі ўвялі тэлечасопіс «Роднае слова» (а для мяне як для літаратара пытанні мовы і вельмі балючыя, і хвалюючыя), хлынуў такі паток прыхільных водгукаў, што было гэта прыемнай нечаканасцю. Я спадзяваўся на падтрымку інтэлігенцыі, але пісалі рабочыя, калгаснікі, інжынеры...

**— Мне здаецца, гэта і на сённяшні дзень адна з самых удалых цыклавых перадач Беларускага тэлебачання. Можа, дзякуючы яе пастаяннаму вядучаму Янку Саламевічу?**

— Так, таму ж Саламевічу. А пачыналі яе Максім Лужанін, Уладзімір Юрэвіч і незабыўны Фёдар Янкоўскі...

Увялі мы і перадачу для самых маленькі[illegible] «Калыханку» на родн[illegible] мове. Папулярная ў дзяцей перадача. І нікога не бянтэжыць, што гучыць па-беларуску. Калі, бывае, здымаем яе з-за тэрміновых афіцыйных перадач, на нас літаральна абрушваюцца сярдзітыя тэлефонныя званкі.

Справе прапаганды роднай мовы служыць перадача «Ліра», якую рыхтуе літаратурна-драматычная рэдакцыя. У ёй удзельнічаюць вядомыя пісьменнікі, безумоўна, узнімаюцца пытанні роднай мовы, нацыянальнага адраджэння. Добрую справу робяць блізкія паміж сабой перадачы «Старонкі гісторыі» і «Спадчына». Першая больш канкрэтна ставіцца да нейкіх гістарычных рэчаў. «Спадчына» — навуковая, з элементамі мастацкага асэнсавання, больш звяртаецца да эмоцый. Многіх яны ўзбагацілі, адкрылі цікавыя старонкі мінулага. А наогул мову мы ніколі не адрывалі ад усяго, што трапляла і трапляе на экран, бо мовай, калі яна жывая, перспектыўная, па-

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## *РАЗВАЖАННІ САЛДАТА*

# МЯРКУЮ: СЛУЖЫЦЬ У АРМІІ ПАВІНЕН КОЖНЫ МУЖЧЫНА...

**У парадная салдацкай форме радавы Анатоль РАДЗІВАНОЎСКІ добра глядзіцца. Высокага росту, барцоўскі разварот плячэй, адкрыты і, бы ў дзяўчыны, пяшчотны, пакуль незнаёмы з лязом брытвы твар. Яму дзевятнаццаць гадоў. Служыць ён у падраздзяленні сувязі, начальнік апаратнай. Беларус, нарадзіўся і вырас у вёсцы, што ў Ваўкавыскім раёне. Там жывуць і працуюць яго бацькі. Сустрэліся мы з ім, калі Анатоль быў у гарадскім звальненні.**

— Служба ў арміі мне падабаецца, — расказвае Анатоль. — Тут вызначаны парадак, няма расхлябанасці, кожны ведае, за які ўчастак адказвае. Тут ёсць магчымасць праверыць свой характар, на што ты здольны. Думаю, служыць у арміі павінен кожны мужчына. Тут атрымліваеш добрую падрыхтоўку да самастойнага жыцця, фізічную і маральна-псіхалагічную загартоўку.

**— Гэта цяпер ты так гаворыш, калі за плячыма амаль год службы. А ўспомні першыя дні...**

— Так, спачатку было цяжка. Нават мне, а я ж вырас у сялянскай сям'і і прывык да працы з маладых гадоў. Я да прызыву на службу паспеў сельскагаспадарчы тэхнікум скончыць, дыплом агранома атрымаць. Але тое, з чым сутыкнуўся ў арміі, ні ў якое параўнанне не ідзе з ранейшымі цяжкасцямі. Вельмі строгі расклад дня, інтэнсіўныя заняткі, вялікія фізічныя нагрузкі, неабходнасць падпарадкоўваць сваю волю загадам камандзіраў — да ўсяго гэтага, паверце, няпроста прывыкнуць.

**— Дарэчы, Анатоль, як кормяць салдата?**

— Я ўжо гаварыў, што ў першыя дні адчуванне такое, быццам крыху недаеў, не насыціўся да канца. Гэта і зразумела: арганізм прывыкае да вялікіх нагрузак, патрабуе папаўнення энергіі. Але потым уцягваешся і не заўважаеш, што на стале пасля цябе ўжо застаецца ежа.

**— А ў якіх умовах вы жывяце, як наладжаны салдацкі быт?**

— Салдаты і сяржанты тэрміновай службы размяшчаюцца ў казарме. У светлым, цёплым і прасторным памяшканні расстаўлены некалькі дзесяткаў салдацкіх ложкаў. На вокнах — кветкі, ёсць вялікі акварыум. Побач — асобны пакой, дзе можна пачытаць газету ці кнігу, напісаць пісьмо дадому, паглядзець тэлевізар. За парадкам і чысцінёй у казарме сочым самі — у арміі бабуля ці мама не прыбярэ.

**— Вольны час прадугледжаны?**

— Калі шчыра, то яго мала. У звальненне ў горад удаецца выйсці ў рэдкія нядзельныя дні. Не таму, што камандзіры не пускаюць. Часта абставіны не дазваляюць: то на варту падраздзяленне заступае, то выезд на палігон запланаваны.

Калі ўсё-такі атрымаў звальненне, як сёння, то стараюся паглядзець новы фільм (у салдацкім клубе звычайна паказваюць стужкі мінулых гадоў), схадзіць на цікавую выстаўку, сустрэцца з аднакласнікамі. Іх у горадзе некалькі, яны вучацца ў інстытутах.

**— Дарэчы, Анатоль, як ты ставішся да таго, што твае сябры-студэнты не служаць у арміі?**

— Не толькі я, але і большасць маіх таварышаў па службе лічым, што рашэнне Вярхоўнага Савета СССР аб вызваленні ад воінскай службы студэнтаў было не да канца прадуманым. Глядзіце, што атрымліваецца. У нашым падраздзяленні, напрыклад, служаць толькі хлопцы з рабочых і сялянскіх сямей. Ніводнага прадстаўніка інтэлігенцыі. Такая ж карціна і ў іншых воінскіх калектывах. Сыны кіраўнікоў, урачоў, настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных, за рэдкім выключэннем, не служаць, таму што, у асноўным, усе яны вучацца ва універсітэтах і інстытутах. Інтэлектуальны ж узровень арміі знізіўся — звольнены ў запас лепшыя сяржанты, спецыялісты высокага класа. Сацыяльная несправядлівасць? Так. Абарона Радзімы стала «рабоча-сялянскай» справай.

Думаю, што вызваліць ад службы студэнтаў трэба было. Але студэнтаў не ўсіх вышэйшых навучальных устаноў, а такіх, дзе рыхтуюць сапраўды вядучых спецыялістаў народнай гаспадаркі, будучых свяцілаў навукі, кіраўнікоў вытворчасці.

**— Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі вядзецца многа размоў аб увядзенні «альтэрнатыўнай службы». Як ты сам да гэтага ставішся?**

— Да «альтэрнатыўнай службы» — станоўча. Ну падумайце, ці многа карысці ад абаронцы Айчыны, які служыць не хоча? У армію яго забіраюць амаль што пад канвоем і потым два гады «сцерагуць», каб не збег. Чаму б юнаку прызыўнога ўзросту не даць магчымасць выбару? Не жадаеш служыць — не трэба. Аўтамата не ўбачыш, ваеннай формы, загадаў, вучэнняў і іншых атрыбутаў ваеннага жыцця — таксама. Але тры, скажам, гады адпрацуй там, дзе патрабуецца краіне: на будоўлі ці рамонце чыгункі, у псіхіятрычнай клініцы ці «неперспектыўнай» вёсцы.

Так што я за «альтэрнатыўную службу». Але скажу шчыра: не думаю, каб юнак, які сур'ёзна рыхтуе сябе да жыцця, зрабіў выбар на яе карысць. Таму што служба ў войску — гэта перш за ўсё магчымасць выпрабаваць сябе ў экстрэмальных умовах, на што ты здольны.

**— Як ты лічыш, два гады службы — гэта многа ці мала?**

— На мой погляд, дастаткова.

Хацелася б, вядома, каб тэрмін службы ў арміі быў скарочаны. Але трэба глядзець на рэчы рэальна. Скарачэнне тэрміну службы не пойдзе на карысць боегатоўнасці часцей і падраздзяленняў — галоўнае, дзеля чаго мы апранулі ваенную форму.

Я тэхнікум скончыў, але сваёй воінскай прафесіяй у поўным аб'ёме авалодаў прыкладна праз год. А каб працаваць на сучаснай баявой тэхніцы на ўзроўні спецыяліста першага класа, трэба, як мінімум, паўтара года. Такая вось раскладка. І нікуды ад яе не дзенешся. Тэхніка і баявая зброя пастаянна ўскладняюцца і ўдасканальваюцца.

**— Якое самае жаданае для цябе заахвочванне?**

— Кароткатэрміновы адпачынак, вядома. Заслужыць яго — запаветная мара кожнага салдата. Ведаеце, я вельмі засумаваў за год па бацькоўскаму дому, па роднай вёсцы, часта ў снах іх бачу...

**— Спадзяешся, што твае стараннe, твая праца будуць заўважаны камандзірамі?**

— Без надзеі жыць нельга, а тым больш у арміі. Веру, што ўдасца з'ездзіць у кароткатэрміновы адпачынак, пабачыць родных і блізкіх. І ўвогуле я ўзаконіў бы водпуск для салдата. Адзін на два гады службы. Існуюць жа водпускі для работнікаў прадпрыемстваў, для вучоных і пісьменнікаў, урачоў і прадаўцоў — для ўсіх, хто працуе. Чаму салдат пазбаўлены гэтага права? Яго праца па напружанню, затратах фізічнай і нервовай энергіі не ўступае, скажам, працы металурга. Ну, а па значнасці, важнасці для краіны я б службу салдата паставіў на асобае месца.

**— Ты, напэўна, як і ўсе людзі, сочыш за падзеямі ў рэспубліках Закаўказзя. У Баку была ўведзена каменданцкая гадзіна. Парадак падтрымліваецца сіламі ўнутраных войск, часцей Савецкай Арміі. Ці апраўдана, на твой погляд, прыцягненне сіл арміі для барацьбы з экстрэмісцкімі элементамі, групамі баевікоў?**

— Я лічу, што ў нашай арміі павінна быць адна і самая важная функцыя — абарона Айчыны, роднай зямлі. Унутраныя функцыі, а менавіта да іх трэба аднесці тое, чым цяпер займаюцца войскі ў Азербайджане, варта ўскласці на ўнутраныя войскі, сілы міліцыі. Тады і аўтарытэт арміі ўзрасце, прэстыж салдацкай службы павысіцца. Але, відаць, становішча ў гэтым рэгіёне настолькі сур'ёзнае, што без сіл арміі абараніць мірных жыхароў проста немагчыма.

**— Анатоль, у вашай часці дзяўчаты служаць?**

— Так, але іх нямнога. У асноўным гэта спецыялісты сувязі на пасадах радавых і сяржантаў. Ёсць жанчыны-прапаршчыкі. Некаторыя з іх узначальваюць разлікі радыёстанцый. Словам, нясуць нялёгкую службу нароўні з мужчынамі. Гэта і нас, хлопцаў, натхняе, прымушае трымаць сябе ў форме, не хныкаць, калі сустрэліся цяжкасці.

**— Сёння ты ў звальненні. Куды ідзеш, калі не сакрэт?**

— Удасца ўзяць білет — пайду ў цырк. Сорамна прызнацца, але я пакуль ні разу не быў у цырку...

**Гутарку вёў Васіль ЗДАНЮК.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ПА ЎЛАСНАМУ ВЫБАРУ

Жыццё і дзейнасць людзей, якія стаялі ля вытокаў магутных сацыяльных і палітычных рухаў, якія рашаючым чынам уздзейнічалі на ход айчыннай і сусветнай гісторыі, заўсёды цікавыя і сучаснікам, і нашчадкам. Да такіх рухаў належыць сацыял-дэмакратычны рух Расіі, і да такіх людзей — Станіслаў Трусевіч — дзеяч рэвалюцыйнай барацьбы ў Беларусі, Польшчы і Літве.

Працэс станаўлення сацыял-дэмакратычнага руху ў заходніх губернях меў свае асаблівасці. Тут гэты рух зарадзіўся ў 1884—1885 гадах не толькі пад уплывам групы «Вызваленне працы», але і першай польскай рабочай партыі «Пралетарыят», утворанай у студзені 1883 года на з'ездзе польска-літоўска-беларускіх груп і гурткоў Варшавы, Пецярбурга, Вільні, Масквы і Кіева. Марксісцкія сацыял-дэмакратычныя гурткі і групы перыяду 90-х гадоў у Беларусі пад уплывам пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» выраслі і колькасна, і якасна. Яны дзейнічалі ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Магілёве, Смаргоні, Пінску. З іх асабліва вылучалася мінская група, створаная Станіславам Трусевічам.

Ураджэнец вёскі Вераскава Навагрудскага павета Станіслаў Трусевіч (псеўданім Казімір Залеўскі) свой шлях у рэвалюцыю і ў рэвалюцыі вызначыў васемнаццацігадовым юнаком, уступіўшы ў 1888 годзе ў Мінску ў сацыял-дэмакратычны гурток. Затым паехаў у Варшаву, вучыўся ў Ветэрынарным інстытуце, працягваючы адначасова актыўную рэвалюцыйную дзейнасць у партыі польскага рабочага класа «Пралетарыят II». У 1891 годзе партыя была разгромлена. Арыштоўваюць і Трусевіча. Два гады ў варшаўскай турме не зламалі яго. Вярнуўшыся пасля вызвалення на радзіму, ён вядзе марксісцкую палітычную агітацыю сярод сялян і настаўнікаў Навагрудскага і Лідскага паветаў, сярод рабочых і навучэнцаў гімназіі ў Слуцку. У 1894 годзе яго зноў арыштоўваюць і высылаюць на два гады ў Мінск пад нагляд паліцыі. Розлік быў на тое, што тут, дзе атмасфера яшчэ не была, на думку ўлад, моцна заражана бацыламі рэвалюцыі, пад пільным вокам паліцыі небяспечны бунтар паступова стане законапаслухмяным грамадзянінам. Так бывала нярэдка. У тым і заключаўся сэнс адміністрацыйнай высылкі.

На гэты раз, аднак, улады памыліліся. Прычым, двойчы: і ў ацэнцы сітуацыі ў Мінску, і ў ацэнцы характара свайго падапечнага. Пад спудам абывацельскага спакою ў гэтым сапраўды невялікім горадзе з насельніцтвам 90 тысяч чалавек ужо хадзілі рэвалюцыйныя токі (накіроўваліся яны з Вільні, якая станавілася своеасаблівым цэнтрам рэвалюцыйнага руху ў Паўночна - Заходнім краі). Магутныя рэвалюцыйныя імпульсы ў Мінск ішлі таксама з Кіева, Масквы, Пецярбурга. Ткалася нябачная сетка сувязей мясцовых перыферыйных падпольных арганізацый паміж сабой і з арганізацыямі, якія дзейнічалі ў прамысловых і палітычных цэнтрах краіны. Гэта была новая характэрная рыса другога этапу ў развіцці расійскага сацыял-дэмакратычнага руху — «детства и отрочества» (1894—1898) у параўнанні з папярэднім — «утробного развития» (1883—1893 гады).

У Мінску да прыезду Трусевіча ўжо існавала сацыял-дэмакратычная група, якая, працягваючы традыцыю гуртка 80-х гадоў Абрамовіча-Гурвіча, працавала ў асноўным сярод рабочых-рамеснікаў. Пры пераходзе ад гуртковай прапаганды да масавай агітацыі гэтая група (Я. Гурвіч, П. Берман, Б. Фрумкін і іншыя) памылкова меркавала дастатковым абмежавацца толькі эканамічнымі патрабаваннямі і таму ў стварэнні стачачных кас па мясцовых і іх аб'яднанні бачыла сваю галоўную задачу. Да 1896 года існавала ўжо 24 такія касы, якія неўзабаве ўдалося аб'яднаць у адну арганізацыю (налічвала да 1 тысячы чалавек).

Прыбыўшы ў Мінск і наладзіўшы сувязі з гэтай групай, Трусевіч, аднак, у яе не ўвайшоў. Яго, як вопытнага рэвалюцыянера, які прайшоў школу палітычнай барацьбы ў асяроддзі буйнапрамысловага пралетарыяту Варшавы, які асвоіў новую тактыку масавай палітычнай агітацыі непасрэдна ў рабочай партыі, не маглі задаволіць ні толькі эканамічны змест агітацыі мінскай групы, ні штучнае абмежаванне дзейнасці рамеснікаў. Не мог згадзіцца ён і з ацэнкай лідэрамі групы так званага «хрысціянскага», гэта значыць неяўрэйскага, пралетарыяту як класава несвядомага, палітычна адсталага. У гэтай ацэнцы ўжо таіліся зерні будучага павароту на сепаратысцкі, па нацыянальнай прыкмеце, шлях стварэння асобнай яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.

Абмежаванасць і памылковасць такой пазіцыі і такога пункту гледжання С. Трусевіч даказаў справай, стварыўшы ў тым жа годзе два гурткі сярод фабрычных рабочых: чыгуначнікаў і на металаапрацоўчым заводзе Ліўшыца і Якабсона. Зліўшыся, гурткі склалі групу, якая неўзабаве ператварылася ў дастаткова моцную сацыял-дэмакратычную арганізацыю. Аб'яднала яна ў асноўным беларускіх і рускіх рабочых. У ядро яе кіраўнікоў, апрача Трусевіча, уваходзілі таксама С. Залеская (яна стала неўзабаве яго жонкай), І. Гарнастайскі, С. Мяржынскі. (Той самы Мяржынскі, які ў 1897 годзе пазнаёміцца з украінскай паэтэсай Лесяй Украінкай. Каханне іх асвятліць сваім трапяткім святлом рэвалюцыйную справу аднаго, свабодалюбівую песню другога).

Арганізацыя Трусевіча раней за іншыя ў Беларусі перайшла да новай тактыкі, вяла агітацыю ў чыгуначных майстэрнях, на заводах і фабрыках. У сакавіку 1895 года пад яе ўплывам прайшла 11-дзённая стачка 355 рабочых майстэрань Маскоўска-Брэсцкай чыгункі.

Арганізацыя расшырала і ўмацоўвала сувязі з падобнымі сабе, імкнулася быць карыснай усяму агульнарасійскаму сацыял-дэмакратычнаму руху. Намаганнямі Трусевіча і яго таварышаў была наладжана перавозка нелегальнай літаратуры з Варшавы ў Мінск, Вільню і Кіеў. Вядома таксама, што праз Сяргея Мяржынскага арганізацыя падтрымлівала сувязі з пецярбургскімі сацыял-дэмакратамі. Але ці толькі праз яго? Характар і змест работы Трусевіча, рэвалюцыянера буйнога маштабу, з шырокім колам знаёмстваў у рэвалюцыйным расійскім падполлі, з багатым вопытам арганізацыі не толькі эканамічнай, але і палітычнай барацьбы рабочых, з інтэрнацыяналісцкім светапоглядам, сведчылі, што створаная ім арганізацыя не магла быць задаволена выпадковымі кантактамі, але павінна была імкнуцца да іх расшырэння і стабільнасці. Так і аказалася. Пачынаў Мяржынскі — працягвалі іншыя. Ва ўсякім выпадку сама паліцыя выявіла сувязь трох чалавек з пецярбургскім «Саюзам барацьбы за вызваленне рабочага класа»: хатняй настаўніцы Ганны Поляк, дачкі сапраўднага стацкага саветніка Наталлі Занцэвіч і доктара Гейдэльбергскага універсітэта Самуіла Гутмана.

Больш таго, гэтая група ўдзельнічала ў дастаўцы марксісцкай літаратуры з-за мяжы ў Расію. Дазнаннем выяўлены факт суправаджэння Г. Поляк транспарту з нелегальнай літаратурай з Мінска ў Маскву, а таксама распаўсюджання яе ў Мінску Н. Занцэвіч. Відавочна, што каналы сувязі з групай Пляханава праз людзей Трусевіча скарыстоўваліся пецярбургскім «Саюзам барацьбы». Гэта тым больш верагодна, што цераз Берлін — Вільню паміж групай «Вызваленне працы» і расійскімі арганізацыямі вялася ажыўленая перапіска па пытанню аб складзе і выступленні Расійскай сацыял-дэмакратычнай дэлегацыі на Міжнародным сацыялістычным кангрэсе ў Лондане ў 1896 годзе. Маючы на ўвазе прыведзеныя факты аб групе Г. Поляк, лагічна прадоўжыць: Берлін — Вільня — Мінск і далей у Маскву, Пецярбург. Лагічна і па той прычыне, што ў ліку сацыял-дэмакратычных арганізацый, якія далі Г. Пляханаву, П. Аксельроду і В. Засуліч права выступіць у II Інтэрнацыянале ў якасці паўнамоцных прадстаўнікоў расійскай сацыял-дэмакратыі, былі таксама арганізацыі Вільні, Мінска і Смаргоні. Прычым арганізацыі ўжо злітыя па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Станіслава Трусевіча ў адзіную — «Рабочы саюз Літвы» (РСЛ). Стварэнне РСЛ было прадыктавана не толькі задачай згуртавання сіл, але і неабходнасцю тэндэнцый на нацыянальнае адасабленне, якія ўзніклі ў асяроддзі літоўскай сацыял-дэмакратыі. З імі С. Трусевіч сутыкнуўся ў Вільні, куды пераехаў летам 1895 года і дзе, не парываючы сувязей з мінскай арганізацыяй, уключыўся ў работу Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі (ЛСДП). Менавіта на ўстаноўчым з'ездзе гэтай партыі, які адбыўся ў канцы красавіка — пачатку мая 1896 года, адзначаныя тэндэнцыі і праявіліся з усёй адкрытасцю. Супраць іх рэзка выступілі, апрача С. Трусевіча, Ф. Дзяржынскі, А. Бірынчык і іншыя інтэрнацыяналісты. Але, аказаўшыся ў меншасці, пацярпелі няўдачу. Вось тады С. Трусевіч выходзіць з ЛСДП і ў мае таго ж года стварае «Рабочы саюз Літвы», які аб'яднаў каля 300 рабочых — пераважна беларускіх, а таксама рускіх, польскіх, у меншай меры яўрэйскіх.

Апошняе было абумоўлена з'яўленнем у сацыял-дэмакратычным руху яшчэ аднаго сепаратысцкага па нацыянальнай прыкмеце ўхілу — яўрэйскага. Ідэя стварэння спецыяльнай яўрэйскай арганізацыі, здольнай быць «кіраўніцай і выхавальніцай яўрэйскага пралетарыяту ў барацьбе за эканамічнае, грамадзянскае і палітычнае вызваленне», была ўпершыню сфармулявана ў прамове Ю. Мартава (Цэдэрбаума) на першамайскім сходзе актыву яўрэйскіх сацыял-дэмакратаў у Вільні ў 1895 годзе. Ідэя, ад якой ён сам хутка адмовіўся, як ад памылковай, але на той час яе падтрымалі яўрэйскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Мінску, Беластоку, Коўне, Варшаве і Віцебску. Іх прадстаўнікі на з'ездзе ў Вільні, які адбыўся 25—27 верасня 1897 года, і прынялі рашэнне аб стварэнні Бунда — «Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі». Так лідэрам яўрэйскай сацыял-дэмакратыі, не без уплыву сіянісцкіх ідэй, удалося стварыць сваю асобную арганізацыю ў агульнарасійскім сацыял-дэмакратычным руху. Бунд заняў у ім месца на крайнім правым флангу. Ён быў скіраваны на барацьбу з самаўладдзем, але разам з тым стаў адным з асноўных праваднікоў апартунізму, нацыяналізму і сепаратызму ў рабочым руху. Для сацыял-дэмакратыі на захадзе Расіі Бунд быў асабліва небяспечны, таму што тут, у раёне «мяжы аседласці», знаходзілася асноўная база яго дзейнасці. Вельмі моцная арганізацыя «Рабочы саюз Літвы», якой кіраваў Трусевіч, была для Бунда даволі небяспечным праціўнікам у барацьбе за ўплыў на масы.

У цэлым праграма РСЛ была марксісцкай, хаця ў пытаннях агітацыйнай работы, паддаючыся мясцовай спецыфіцы, мела пэўны ўхіл у бок «эканамізму»: палітычнай агітацыі ў параўнанні з эканамічнай на даным этапе адводзілася другарадная роля.

Як падкрэслівалася ў адным з жандарскіх дазнанняў, рабочы рух у Смаргоні «ўзмацняўся пад уплывам Трусевіча, які спецыяльна з гэтай мэтай двойчы ездзіў туды летам 1896 года ў суправаджэнні Баляслава Яцкевіча і Станіслава Валашкевіча. Пераконваў рабочых наладжваць стачкі і арганізоўваць касы для рабочых».

Намаганнямі РСЛ быў арганізаваны адзін з першых прафесіянальных саюзаў у краі — гарбарнікаў Літвы з аддзяленнямі ў Вільні, Мінску і Смаргоні. Тым самым і на гэтым напрамку работы — стварэнне стачачных кас і прафесіянальных саюзаў, які Бунд лічыў для сябе ледзь ці не магістральным, РСЛ паўстаў на дарозе. І было зусім ясна, што створаныя пад яго кіраўніцтвам прафсаюзы будуць вольныя ад тэндэнцый нацыянальнай замкнёнасці і не абмяжуюцца толькі рамкамі эканамічнай барацьбы.

РСЛ, уяўляючы для Бунда небяспеку ў барацьбе за масы, тым самым станавіўся і перашкодай яго прэтэнзіям на адмысловае прадстаўніцтва інтарэсаў яўрэйскага пралетарыяту ў ажыццяўленні задумы падпарадкаваць сабе ўвесь сацыял-дэмакратычны рух і ў ходзе аб'яднання сацыял-дэмакратычных гурткоў у адзіную партыю заняць у ёй камандныя вышыні. І таму не выпадкова лідэры Бунда зрабілі ўсё магчымае, каб ізаляваць РСЛ ад удзелу ў рабоце па скліканню І з'езда РСДРП, каб не дапусціць яго прадстаўнікоў на з'езд. Ім гэта ўдалося ў многім яшчэ і таму, што ў 1897 годзе былі арыштаваны С. Трусевіч, іншыя актыўныя члены Рабочага саюза Літвы. Маштабы дзейнасці РСЛ хаця і звузіліся, але былі па-ранейшаму значныя. Дастаткова сказаць, што да 1899 года выдаваўся яго орган «Przeglad Robotniczy», выпускаліся лістоўкі, вялася вусная агітацыя. «Саюз» аказаўся здольны ўзняць віленскіх рабочых на антыўрадавыя дэманстрацыі 1, 8 і 22 сакавіка 1899 года ў знак пратэсту супроць ссылкі сваіх арыштаваных лідэраў, а таксама членаў ЛСДП і Бунда. (Факт аднačасова сведчыць аб высокім узроўні пралетарскага інтэрнацыяналізму РСЛ і яго супрацоўніцтве з іншымі арганізацыямі).

Два гады ішло следства па справе С. Трусевіча. Суд, прыгавор: пяць гадоў ссылкі ва Усходнюю Сібір. Месцам ссылкі стаў пасёлак Алекмінск у суровай Якуціі. Але і паўгода не прабыў там Трусевіч: адчайна смелыя і цяжкія ўцёкі аказаліся ўдалымі. Зноў Вільня і зноў напружаная рэвалюцыйная работа.

Ён удзельнічае ў падрыхтоўцы аб'яднаўчага з'езда Рабочага саюза Літвы і сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага ў адну партыю; распрацоўвае яе праграму і статут; выбіраецца на з'ездзе разам з Ф. Дзяржынскім і М. Казлоўскім у склад яе Галоўнага ўпраўлення.

Як адзін з кіраўнікоў польска - літоўскай сацыял-дэмакратыі, Трусевіч падтрымліваў таксама сувязі з рэдакцыяй «Искры», з У. І. Леніным, дапамагаў у распаўсюджанні газеты, публікаваў у ёй свае карэспандэнцыі (у прыватнасці, у чацвёртым нумары — пра дэманстрацыі ў Смаргоні, у пятым — пра забастоўкі ў Лодзі).

У 1901 годзе — новы арышт і новыя ўцёкі, вяртанне ў Літву. Будучы адным з актыўных прыхільнікаў аб'яднання СДКПіЛ (Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы) з РСДРП, Трусевіч у многім садзейнічаў прыняццю адпаведнага рашэння IV з'ездам партыі.

Першая буржуазна - дэмакратычная рэвалюцыя, якую ён так чакаў і ў падрыхтоўку якой унёс свой вялікі ўклад, застала Трусевіча ў Вільні. Ён уваходзіць у склад Аб'яднанага камітэта Віленскай групы РСДРП, кіруе шэрагам палітычных стачак у Вільні, Коўне, Шаўлях, іншых гарадах.

У 1906 годзе чарговы, на гэты раз непрацяглы арышт. Скарыстаўшы вызваленне пад залог, Трусевіч едзе за мяжу. Эміграцыя працягвался аж да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Яго ідэйна-палітычныя пазіцыі ў гэтыя доўгія гады не заставаліся нязменнымі. На V з'ездзе РСДРП, дэлегатам якога ён быў ад Варшаўскай сацыял-дэмакратычнай групы, Трусевіч прытрымліваўся пераважна бальшавіцкага напрамку. Але праявілася і пэўная цяга да меншавіцкіх ідэй. Як вынік — супрацоўніцтва ў рэдакцыі меншавіцкай газеты «Наша слова».

З пачаткам першай сусветнай вайны Трусевіч рашуча паварочвае да бальшавікоў, заявіўшы ў пісьме да Леніна ў 1915 годзе аб сваім асуджэнні апартыстычнай пазіцыі кіруючага цэнтра меншавікоў.

Вярнуўшыся пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расію, ён уступае ў партыю бальшавікоў. Сфарміраваўшыся ў гады эміграцыі як таленавіты публіцыст, ён ставіць сваё пяро на службу сацыялістычнай рэвалюцыі. Публікуецца ў «Правде», выпускае брашуры «Роля інтэлігенцыі ў развіцці Інтэрнацыянала», «Нацыянальнае пытанне і Інтэрнацыянал». Апошняя зацікавіла У. І. Леніна. Экземпляр яе і сёння захоўваецца ў ленінскай бібліятэцы ў Крамлі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Трусевіч загадвае аддзелам у газеце «Известия», узначальвае новы часопіс «Вестник жизни». І пастаянна публікуецца, бывае сярод рабочых, сярод інтэлігенцыі, выступае на дыспутах, чытае лекцыі. Працуе не шкадуючы сябе. Надарванае ў ссылках, турмах і ў падполлі сэрца не вытрымала. Ён памёр раптоўна 25 жніўня 1918 года ў Мажайску, куды прыехаў на з'езд настаўнікаў з лекцыяй аб праблемах культурнай рэвалюцыі.

Станіслаў Трусевіч абраў свой шлях сам. І прайшоў яго згодна сваім пераканаҥням, не падладжваўся пад кан'юнктуру часу. А гэта заўсёды, і праз дзесяцігоддзі, выклікае павагу.

**Аляксей КАРОЛЬ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# LA CIENCIA DEBE RENDIR MAS

Liquidar las consecuencias nocivas del accidente de Chernóbil es hoy, al cabo de tres años, un problema muy candente y que en Bielorrusia se ha tornado muy grave.

La quinta parte de los suelos de la república está contaminada con nucleidos radiactivos, desintegrados a raíz de la explosión del reactor. En las zonas afectadas vive medio millón de personas propensas a acusar a la ciencia de haber minimizado la magnitud del peligro que la influencia prolongada de pequeñas dosis radiactivas tiene sobre el hombre. Como efecto de tal postura, opinan los vecinos de las zonas afectadas, en tres años transcurridos las autoridades no han adoptado medidas adecuadas que garantizaran una vida tranquila para la gente y restablecieran el equilibrio ecológico en las zonas. Tal ánimo se ha hecho manifiesto en las intervenciones de los integrantes de la delegación bielorrusa en el Congreso de Diputados Populares de la URSS, entre quienes sobresale la médica Z. Tkachova que procede de la región de Moguiliov. A juicio de ella, los científicos — médicos y biofísicos— no cumplieron con la misión encomendada. Las apreciaciones de los médicos respecto al estado de salud de los habitantes de las zonas afectadas difieren cada vez más de las apreciaciones hechas por los médicos teóricos, por los dirigentes del servicio de Sanidad del país. Efectivamente, por ahora no se han producido cambios en la estructuración de la morbilidad, pero sí han aparecido algunos precursores: nacen niños con catarata innata, disminuye la agudeza de la vista y la inmunidad, aumenta la cantidad de anemias e infartos de miocardio. Sólo al cabo de 10 ó 15 años se podrá disponer de datos proporcionados por observaciones más prolongadas. Pero hoy, opina la médica que a su vez es diputada, sería bueno que se pusiera más atención en la evolución de las enfermedades y en el crecido número de quejas por parte de la población, así como en el débil pertrechamiento de medios de diagnosis temprana y la falta de instrumentos adecuados, que afecta a los médicos.

¿En qué medida tienen suficiente fundamento las acusaciones de incompetencia que se hacen a la ciencia? Aparentemente todos tienen sus razones. Es comprensible la tensión sicológica que se ha creado en la población, agravada a veces por las publicaciones de datos contradictorios y de claras discrepancias entre los mismos científicos. Además, a la ciencia le falta experiencia para realizar los estudios en cuestión, para arribar a pronósticos acertados y hacer recomendaciones cuya realización es de enorme responsabilidad y requiere de grandes inversiones.

El profesor Vladímir Matiujin, director del Instituto de Medicina de Radiación, recién creado en Minsk, considera que el estado de salud y nivel de morbilidad de la población de las zonas afectadas no se diferencia, en general, de los mismos indicadores del período de antes del accidente y de los de las zonas no afectadas. Datos similares han obtenido los científicos de Ucrania y de la Federación Rusa. No obstante, en algunas zonas se ha registrado el crecimiento de la morbilidad (hipertonía, isquemia, bronquitis crónicas; y entre los niños, tonsilitis crónicas y anemias). El análisis de la morbilidad muestra que los ritmos de su crecimiento en las zonas afectadas se deben, en gran medida, a que las enfermedades aparecen reveladas precisamente como consecuencia del chequeo médico masivo practicado a la población.

A juicio de la mayoría de los científicos, no se ha demostrado la influencia negativa de pequeñas dosis radiactivas [illegible] el organismo humano. No o[illegible]nte, se considera que cualquier dosis radiactiva, por más pequeña que sea, no es inofensiva. Los cálculos muestran que con la dosis de 35 rem la probabilidad de tumores letales (inc[illegible]do el cáncer de la sangre) pu[illegible]r del 0,5 al 1,2 por ciento [illegible]on respecto al nivel normal existente de estas enfermedades provocadas por todas las demás causas. Las consecuencias genéticas se calculan en cifras aún más bajas.

La primera institución científica que en Bielorrusia empezó a especializarse en la medicina de radiación fue creada recién en 1986. Pero el accidente de Chernóbil mostró que ese problema requiere una mayor atención. Justamente por eso se creó el Instituto de Medicina de Radiación que se dedica a revelar los síntomas preclínicos de los probables cambios y su prevención, para evitar que se conviertan en una enfermedad. Una de las tareas más importantes del Instituto es elevar la educación sanitaria y ecológico-radiológica de la pablación.

En la república se efectúan estudios del medio ambiente, en particular, de las plantas, animales, los suelos y el agua. En decenas de puestos de control se determina dos veces al año el contenido de radionucleidos en el suelo y el fondo de radiación gamma, y se observan el aire atmosférico, las precipitaciones y fuentes de agua. Existe toda una red de laboratorios para hacer el control de productos del agro. El servicio epidemiológico efectúa el control de los laboratorios del ramo. Pero por ahora no se hace la generalización de los resultados de los estudios, lo cual disminuye la eficacia de las recomendaciones.

Con ayuda de científicos se ha trazado a largo plazo la estrategia de protejer a la población de las consecuencias radiactivas. El nuevo concepto de vida segura se basa en la dosis límite —35 rem— que puede recibir el ser humano como promedio calculado sobre la base de 70 años de vida, siendo mínimo el riesgo de surgir enfermedades crónicas y de producirse cambios genéticos. Los vecinos de las localidades que no tengan la adecuada seguridad, serán trasladados a las zonas limpias.

El carácter legítimo del nuevo concepto lo confirmaron los peritos del Organismo Internacional de la Energía Atómica, la Organización Mundial de la Salud u otras organizaciones internacionales vinculadas a las cuestiones de seguridad radiactiva, los que en junio de 1989 han visitado las zonas de contaminación radiactiva en Bielorrusia. Allí ya se han invertido cientos de millones de rublos para liquidar las consecuencias del accidente de Chernóbil. Pero esta es una pequeña parte de lo que se requiere en realidad. Por eso el proyecto de programa estatal para liquidar las consecuencias del accidente para el período 1990-1995 comprende nuevas inversiones para construir nuevos poblados para la gente evacuada de las zonas contaminadas, para el acondicionamiento de los poblados existentes, para adquirir modernos equipos radiométricos y otros instrumentos e instalaciones, así como para reforzar la base material de las instituciones científicas. La ciencia tendrá que decir su firme palabra en cuanto a la eliminación de las consecuencias de una catástrofe que no debe repetirse jamás.

Viacheslav SLAVIN.




*Luego de haberse producido el accidente de Chernóbil, la región de Braguin fue declarada la "zona de especial atención". No obstante, hasta hoy día siguen presentándose aquí muchos problemas: el déficit de medicamentos, incumplimiento de las normas sanitarias y etc. A veces este hecho da origen a los rumores, como en el caso de la presunta contaminación de agua. Sólo después de hacerse el análisis del agua, que se había tomado en cinco lugares de Braguin, los vecinos se tranquilizaron: ésta resultó ser intacta.*

*En las fotos: el médico-jefe del servicio de sanidad y epidemiologia de Braguin O. BRUSINENCO junto con el radiólogo A. SEDUK en la presencia de la representante del vecindario N. NIKI[illegible]O hacen el análisis del agua. En las cisternas no precintadas se transporta la producción de la quesería de Braguin.*

Foto: **S. JOLODILIN.**





### LENINGRADO: DE TRÁNSITO EN LA PATRIA

En las salas del Museo Ruso se inauguró la exposición "Tránsito. Pintores de Rusia en la emigración". Los leningradenses vieron obras de ex compatriotas gracias al Museo Ruso, la firma "Edward Nahamkin Fine Arts" y el Museo de Bellas Artes de Long Islands.

Esta muestra del arte de la emigración rusa, la primera en la URSS, presenta obras de autores que actualmente viven en EE.UU., Francia, Inglaterra e Israel. Obras pictóricas, dubujos y esculturas se exponen en el certamen que cuenta con unas setenta obras de Ernst Neizvestni, Mijail Shemiakin, Oleg Tselkov y Oskar Rabin. Quizá, por primera vez muchos de los visitantes verán trabajos realizados en el estilo del conceptualismo y el arte socialista, orientaciones artísticas que se habían formado entre los autores todavía en la URSS. Este grupo de pintores está representado por las obras de Leonid Lamm, Leonid Sókov y Alexandr Kosolápov.

La exposición produce un choque cultural y constituye para muchos un descubrimiento, incluso para los aficionados al arte. A propósito, ésta ya se presentó en Nueva York, permitiendo a los norteamericanos valorar la influencia del "elemento ruso" en el proceso pictórico occidental. En realidad nadie es profeta en su propia tierra.

Redactor de la página: K. SHELESTOVICH.



Пасведчанне аб сканчэнні Духоўнага вучылішча пры Мінскім Епархіяльным упраўленні атрымалі днямі 46 прадстаўнікоў розных рэгіёнаў рэспублікі. Адкрытае нанава, вучылішча рыхтуе для прыходаў Беларусі рэгентаў-псаломшчыкаў (кіраўнікоў царкоўнага хору). Пасада гэта вельмі адказная: нават маючы вышэйшую музычную адукацыю, не кожны здольны яе заняць. Патрэбны яшчэ глыбокія веды тэалогіі. Для гэтага слухачы вывучаюць біблейскую гісторыю, царкоўны статут, царкоўныя спевы, царкоўнаславянскую мову і праходзяць практыку пры Мінскім кафедральным саборы.

НА ЗДЫМКАХ: мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі ў час уручэння пасведчанняў; першыя выпускнікі Духоўнага вучылішча.

Фота Л. КЛІМАНСКАГА.



## ВЫХАД СЛОЎНІКА

Факт пра многае гаворыць: Беларуская ССР, з'яўляючыся больш чым сорак гадоў паўнапраўным членам ААН, да цяперашняга часу не мела ніводнага слоўніка, які напрамую звязваў бы нацыянальную мову з якой-небудзь з рабочых моў гэтай міжнароднай арганізацыі. Таму выхад у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» англа-беларуска-рускага слоўніка можна лічыць падзеяй не толькі культурнага, але і палітычнага жыцця рэспублікі.

Аб'ём слоўніка, праўда, далёка не акадэмічны — ён налічвае каля сямі тысяч найбольш ужывальных слоў і фразеалагічных адзінак і разлічаны ў асноўным на тых, хто пачынае сур'ёзнае вывучэнне англійскай мовы. Але, прачакаўшы столькі гадоў, не будзем спяшацца: пачата ўжо работа над беларуска-англійскім слоўнікам на трыццаць тысяч слоў. У задуманую ж серыю невялікіх трохмоўных слоўнікаў увойдуць нямецкая, англійская, французская і іспанская мовы.

# ПРОЦІСТАЯННЕ І ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

вінна быць прасякнута і гісторыя, і навука, і грамадскае жыццё, і палітыка, і нават спорт.

**— Наша Беларускае тэлебачанне часам абвінавачваюць у правінцыялізме. Чаго, як старшыня камітэта, вы лічыце, яму не хапае? Ці ёсць нявыкарыстаныя магчымасці?**

— Я ў нечым магу быць і неаб'ектыўным, таму што для мяне тэлебачанне — гэта 11 гадоў майго жыцця, чэсна аддадзеных справе. Я ведаю пра яго значна больш, чым гледачы, і нават некаторыя даследчыкі. Таму бывае крыўдна, калі даюцца ацэнкі паспешлівыя.

І ўсё ж... На сёння, я лічу, самая галоўная слабасць — адсутнасць у БТ цалкам свайго ярка акрэсленага аблічча. Яно недастаткова арыгінальнае, адметнае як тэлебачанне Беларускай рэспублікі. Ёсць, бясспрэчна, элементы правінцыялізму. Я бачу іх у тым, што мы часта ідзём следам за некім. З'явілася на Цэнтральным тэлебачанні нешта прафесійна цікавае, мы тут жа стараемся штосьці падобнае зрабіць у сябе. Маладзёжную праграму «Крок» чакае і глядзіць практычна ўся рэспубліка. І для тэлегледача зусім не праблема, што ён ідзе ўслед за маскоўскім «Взглядом». А калі падыходзіць з пачуццём прафесійнага гонару, то хацелася б, каб гэтых блізкасцей было менш.

Другое, што я ўводжу ў паняцце правінцыялізм: мы не ўмеем свае знаходкі цікава і своечасова падаць тэлегледачу. Мы намнога раней Масквы пачалі падымаць і завастраць пытанні сацыяльна-бытавога плана, былі прамыя сустрэчы з кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, але пра гэта цяпер не помняць.

Наша слабасць таксама і ў недастатковым інтэлектуальным патэнцыяле, і не толькі журналістаў, але і нашых аўтараў, і нашых герояў. Калі ў перадачу прыходзіць інтэлектуальна багаты чалавек, даруйце мне, перадача ўжо ёсць. Няма асобы — няма перадачы.

На жаль, трэба прызнаць (няма чаго цяпер гэтага хаваць): справа з культурай, з увагай і павагай да інтэлектуальных сіл не самая лепшая. Тая канфрантацыя, якую некаторыя чыноўнікі паслядоўна ўсчынаюць, каб рабочыя папракалі інтэлігентаў, што яны іх хлеб ядуць, сведчанне невысокай або недастаткова высокай культуры і недастатковага разумення месца інтэлігенцыі ў развіцці ўсяго нашага грамадства. Інтэлігенцыя таму і інтэлігенцыя, што яна заўсёды ідзе наперадзе ў прадбачанні, рэагуе эмацыянальна, а інакш яна была б не патрэбна. Асаблівасцей гэтых многія або не ведаюць, або не хочуць разумець, або не хочуць прызнаваць. Але калі мы далі права гаварыць тое, што людзі думаюць, мы павінны ўсё гэта ўзважваць і чуць, і даваць ацэнку. Вы думаеце народ, я маю на ўвазе не народ у шырокім разуменні, а шырокія масы, чыталі Васіля Быкава, ведаюць яго пазіцыю і прынцыпы, так ужо ведаюць Брыля Янку ці з маладзейшых Някляева, Барадуліна? І таму некаторыя чыноўнікі карыстаюцца недазволенымі прыёмамі, гавораць, што інтэлігенцыя «безответственная». Але калі недасведчанасць можна даравацъ таварышам, у якіх няма часу ці патрэбы карыстацца здабыткамі культуры, то недасведчанасць нельга дараваць кіраўнікам. Яны не маюць права прэтэндаваць на высокія пасады, не маючы адукаванасці, дастатковай культуры ці хаця б павагі да яе.

**— Скажыце, ці ахвотна прымаюць удзел у тэлеперадачах прадстаўнікі апарату, або як мы цяпер гаворым, чыноўнікі?**

— Не надта ахвотна. Прычым у нас тут ёсць адна слабасць. Зноў жа сведчанне нашай нізкай палітычнай культуры, калі мы ўсіх стрыжом пад адзін грэбень. Без апарату ж як механізма кіравання жыць нельга. Уся справа ў тым, наколькі гэты апарат мабільны і хто ў ім працуе. Калі там людзі несумленныя, тыпу Шчолакава ці Чурбанава, то гэта страшны апарат. Але Уладзімір Ільіч Ленін таксама працаваў у апараце, і Луначарскі, і Кіраў былі ў апараце. Той жа Пётр Міронавіч Машэраў працаваў у апараце. Так і з выступленнямі: ідуць неахвотна, але зноў жа не ўсе. Актыўна выступае ў нас першы сакратар Віцебскага абкома партыі Уладзімір Грыгор'еў, апошнім часам даволі ахвотна ідзе да нас сакратар ЦК КПБ Аляксей Камай...

**— Мы цяпер часта паўтараем, што жывём у іншым часе і маем магчымасць гаварыць больш адкрыта і шчыра пра свае праблемы і недахопы. Наколькі тэлебачанню дазволена ўзнімаць вострыя пытанні, якія тут у яго магчымасці?**

— Пытанне ваша нялёгкае. Безумоўна, магчымасцей стала больш, умяшання грубага і катэгарычнага няма. Цяпер мы ўжо можам спрачацца, і часам прымаецца такое хітрае рашэнне — на пагляд кіраўніцтва, гэта значыць, нас саміх. Нашы адносіны з дырэктыўнымі органамі, ці, канкрэтней сказаць, з ЦК партыі, таксама сталі іншымі. На жаль, адмовіцца зусім ад старых форм узаемаадносін некаторыя нашы таварышы не хочуць ці не могуць.

**— Чарнобыльская тэма. Ці ёсць у тэлебачання магчымасць асвятляць яе ва ўсёй паўнаце, выказваць розныя пункты гледжання і меркаванні?**

— Чарнобыльская тэма на сённяшні дзень самая складаная, самая балючая і самая вострая. Складана і тое, што да сённяшняга дня няма адзінства думкі сярод вучоных і сярод кіраўнікоў. Адны лічаць, што з бядой можна справіцца лёгка. Радыкалы, ды яшчэ калі крайнія, бяруць пазіцыю, што наогул пастаўлены пад пытанне жыццё нацыі, яе генафонд. Зноў жа ў жыцці ўсё трэба браць разумна. Дзе залатая сярэдзіна? Я, напрыклад, на сябе не вазьму адказнасць што-небудзь сцвярджаць. Адзінае, у чым упэўнены: Чарнобыль — гэта тая тэма, пра якую наш беларускі звон павінен, не перастаючы, звінець, каб ні ў воднага чалавека не закралася ў душу неразуменне таго, што гэта бяда і трагедыя сапраўдныя. Пакуль праблема ёсць, мы не дадзім нікому спаць, падабаецца гэта некаму ці не.

**— Як вы лічыце, Генадзь Мікалаевіч, не ўдарыліся мы ў крайнасць, асвятляючы, ці, правільней, ачарняючы наша мінулае, руйнуючы здабыткі і ідэалы? Ці не варта было б больш засяроджвацца і вырашаць надзённыя праблемы?**

— Такія паводзіны псіхалагічна проста тлумачацца. Мы не хочам дрэнна гаварыць пра сябе, таму дрэнна гаворым пра тых, хто трошкі ад нас аддалены ў часе. Але тым самым, калі мы чэсныя людзі, мы ацэньваем сябе. Калі мы асмеліліся на ацэнкі, значыць мы не безнадзейныя. Аналіз мінулага патрэбны дзеля таго, каб узяць урокі, нават калі аналіз жорсткі. Іншая справа, што тады мы сцвярджалі, быццам бы ўсё было выдатна, цяпер — што ўсё было жахліва. Небяспеку бачу ў тым, каб мы не зусім растапталі нейкіх маральных крытэрыяў.

**— Здаецца мне, што ўжо многае растапталі...**

— Баюся сцвярджаць, але і ў мяне такая апаска ёсць. Безумоўна, лёгка ацэньваць гісторыю пасля таго, як яна адбылася. Намнога цяжэй рабіць гісторыю, не ведаючы, чым гэта скончыцца. Забываючы такую тонкасць, мы часам залішне смелыя. Прывычка нашага кіраўніцтва не прызнаваць памылкі — адна з самых неразумных і нецывілізаваных. Ясна, што ў нашым агульным гістарычным вопыце было многа станоўчага. Канешне, кроў была, неразумнасць некаторых рашэнняў была, але нельга адкідаць энтузіязм народа, хай сабе і не падмацаваны ведамі, здзекавацца з яго. Я люблю і цаню малады максімалізм, але калі мы падстройваем гісторыю пад свае сённяшнія канцэпцыі, ведаючы ўсё, што ўжо адбылося, гэта ненавукова і несправядліва, таму што і нас жа таксама будуць судзіць.

**— Мінула амаль пяць гадоў перабудовы, і мы ўжо бачым свае пралікі і памылкі...**

— Мы топчамся на месцы, буксуем. Добра, што скінулі путы з мовы нашай, але не скінулі з эканомікі і з нашых мазгоў. Я за тое, каб нас судзілі, але і разумелі нашчадкі. Калі ў народа такая патрэбнасць разабрацца і расставіць акцэнты, не трэба гэтаму перашкаджаць. І яшчэ адна: рассудзіўшы мінулае, мы павінны сябе прывучыць да таго, што ацэньваць трэба пачынаць ужо цяпер. І так, як мы судзім персанальна мінулае, пачынаючы са Сталіна і яго бліжэйшых паплечнікаў ці заплечнікаў, мы павінны персанальна падыходзіць і да спраў тых, хто за іх адказвае сёння.

**— Засталося ўсяго некалькі дзён да выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР. Вядома, што і вы таксама прэтэндэнт на дэпутацкі мандат. Як сёлетняя перадвыбарчая кампанія з усімі яе асаблівасцямі асвятляецца па тэлебачанні?**

— Выбарчая кампанія зараз займае львіную долю нашага вяшчання. Раней кандыдаты ў дэпутаты на тэлебачанне не звярталіся, выбранне ж ім было гарантавана, дык навошта старацца. Цяпер мы не знаем, як стрымаць лавіну просьбаў, прапаноў, нават патрабаванняў. Выбары ж альтэрнатыўныя, і той, хто ўступае ў барацьбу, відаць, хоча перамагчы. Не выказваючы сваёй пазіцыі, тэлебачанне ўсім кандыдатам прадастаўляе аднолькавыя магчымасці, бо людзі павінны выбіраць свядома.

**— На перадвыбарчых сходах у кандыдата ў народныя дэпутаты прынята цяпер пытацца аб яго праграме. І такі чалавек звычайна многа і ахвотна абяцае. Наколькі рэальна выкананне авансаў?**

— Платформа ў кандыдата павінна быць, але ўбіраць ключавыя пытанні сённяшняга дня. Напрыклад, яго адносіны да закона пра ўласнасць ці пазіцыя да такой канкрэтнай рэчы, як Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі. Калі кандыдат выказвае сваё меркаванне, нейкае глыбіннае стаўленне да праблемы, гэта, я лічу, і ёсць яго праграма, яго платформа. Але я супраць тых шматлікіх абяцанняў, якія даюць кандыдаты і якія, даруйце, падабаюцца выбаршчыкам. Што такое наш Вярхоўны Савет? Гэта 360 розных чалавек. І як ты што-небудзь можаш абяцаць, не ведаючы, за што прагаласуюць астатнія 359!

**— Кандыдат у дэпутаты паабяцаў, што жыхарам свайго мікрараёна палепшыць жыллёвыя ўмовы...**

— Гэта, бясспрэчна, неабгрунтаванае абяцанне. Тым больш, што ў парламента функцыі не размеркавальныя і нават не выканаўчыя, а заканадаўчыя.

Я за тое, каб у час перадвыбарчай кампаніі выбаршчыкі пераканаліся ў станоўчых якасцях свайго кандыдата, даведаліся, які ён чалавек у палітычных адносінах, маральных, у яго кампетэнтнасці, смеласці, прынцыповасці. Калі ва ўсіх гэтых адносінах чалавек высокіх якасцей, я абсалютна не трывожуся, якія б пытанні яму ні давялося рашаць, бо ён будзе іх рашаць у інтарэсах усяго народа, а не толькі сваіх выбаршчыкаў.

У сваёй перадвыбарчай кампаніі, калі сустракаюся з людзьмі, стараюся не даваць абяцанняў. Выслухаць — так, зразумець, што ім баліць, — так. У мяне такі прынцып: лепш зрабіць не абяцаючы, чым паабяцаць і не зрабіць. Праўда, у сённяшніх канкрэтных умовах мая пазіцыя можа і нявыгадная. Але калі да кіраўніцтва прыходзяць дэмагогі і гарлахваты, народ і рэспубліка гэта канкрэтна адчуваюць.

**— Беларусь на сённяшні дзень, здаецца, адна з нямногіх савецкіх рэспублік, дзе захоўваецца адносны спакой. Чым вы гэта тлумачыце?**

— Сітуацыя, якую мы характарызуем, як «спакойная», тлумачыцца, на мой погляд, трыма момантамі. Першы — нацыянальным характарам і традыцыяй народа, народа спакойнага і разважлівага, які паважае іншых і думае не толькі пра сябе. Другое — больш-менш стабільным эканамічным становішчам. І трэцяе — традыцыямі партыйнай арганізацыі рэспублікі, іншых грамадскіх арганізацый. Аднак хачу сказаць, што калі мы будзем толькі радавацца сваёй стабільнасці і спакою і не рэагаваць на глыбінныя, пакуль што непрыкметныя працэсы, што адбываюцца ў нас, то як гэта ні страшна, мы атрымаем праяўленне экстрэмізму і ў нас. Я маю на ўвазе перш за ўсё непатрэбную ўпартасць у адносінах да нефармальных аб'яднанняў і ў першую чаргу да Беларускага народнага фронта. Трэба разабрацца з гэтай арганізацыяй, і, калі існуе такі рух, не трэба рабіць выгляд, што ён не існуе. З ім трэба працаваць, паспрабаваць адзін аднаго пераканаць. Калі пераканаць не зможам, мірна разысціся.

**— Ці спадзяецеся вы на тое, што новы Вярхоўны Савет рэспублікі будзе іншым, чым той, што мы маем?**

— Каб я не спадзяваўся, што ён будзе іншым, я б не ўдзельнічаў у барацьбе за права быць у гэтым парламенце. Безумоўна, спадзяюся. Хаця лічу зусім не гарантаваным, што новы Вярхоўны Савет будзе больш высокага ўзроўню, чым той, які мы маем. Пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты апарат дзейнічаў даволі актыўна, а масы так і не абудзіліся да актыўнай грамадскай работы. Адным словам, гарантый няма, спадзяванні ёсць.

**— Мне толькі застаецца пажадаць вам, каб спадзяванні здзейсніліся.**

**Інтэрв'ю вяла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## ВЫЙШЛА Ў СВЕТ

# ЯКІЯ ПРАБЛЕМЫ Ў ШКОЛЫ

ФАКТ, бадай, неаспрэчны: перабудова — гэта шматграннасць. Яе мы бачым літаральна ўсюды. Эканоміка, палітыка, навука, культура, народная адукацыя, іншыя сферы нашага жыцця, здаецца, нарэшце, сталі напаўняцца рэальнасцю перамен. Іх неадназначнасць выклікае часам здзіўленне, а часцей — цікавасць, веру і надзею. Пра гэта гавораць людзі, грамадскія дзеячы, публіцыстыка, якая сёння перажывае сапраўдны рэнесанс. Страсна і вобразна, шматгалосна і актыўна, надзённа і шчыра працэс перабудовы паказваюць кнігі, артыкулы, манаграфіі, зборнікі, якія ўсё часцей сталі выходзіць у свет.

Гэта кніга — таксама пра перабудову, перабудову сістэмы народнай адукацыі. Называецца яна — «Школа сёння», выйшла ў 1989 годзе ў мінскім выдавецтве «Беларусь» на нямецкай, французскай і англійскай мовах. Хочацца адразу звярнуць увагу на характэрны падзагаловак «Рэформа школы: вопыт, праблемы, рашэнні». Так, няпростую задачу паставіў перад сабой журналіст Аляксандр Сачанка — паказаць беларускую школу замежнаму чытачу. Дарэчы, спробы такой яшчэ не было. Тое ж, што выходзіла да мерапрыемстваў ЮНЕСКА, як правіла, вызначалася голай канстатацыяй лічбаў і фактаў, без адпаведнага аналізу стану народнай адукацыі, канкрэтных людзей, адрасоў, тэндэнцый развіцця.

Лічбы ёсць і ў названай кнізе, але толькі для ўяўлення чытача пра агульную колькасць школ: гарадскіх і сельскіх, дзённых і вячэрніх, поўных і няпоўных, іх матэрыяльную базу, узровень адукацыі настаўнікаў, напаўняльнасць вучнямі. Яны прыведзены ў пачатку раздзелаў і з'яўляюцца як бы ключом да роздуму аўтара пра стан народнай адукацыі рэспублікі, плануемыя перамены і рэальныя справы. Адметна, што А. Сачанка не намагаецца быць ісцінай у апошняй інстанцыі. Да дыялога ён запрашае розныя катэгорыі работнікаў — загадчыкаў райаана, кіраўнікоў школ, настаўнікаў. На стыку іх сумеснага роздуму, гутаркі і адкрываюцца многія праблемы, якімі жывуць цяпер школы і настаўнікі. А праблем гэтых нямала: стварэнне сапраўды гібкай і паслядоўнай сістэмы адукацыі, якая дазваляла б любому чалавеку ў любы момант атрымаць новыя веды, павысіць кваліфікацыю, падключыцца да сістэмы ведаў; наладзіць дакладную паэтапную дыферэнцыраваную вучобу падрастаючага пакалення; збалансаваць рэальныя патрэбнасці народнай гаспадаркі ў спецыялістах з установамі, якія заняты іх падрыхтоўкай; вырашыць набалелыя праблемы самой школы, настаўніка, рэалізаваць на справе публічнасць і дэмакратызацыю.

Размова, адкрытая і аргументаваная, вядзецца пра тое, як і што зрабіць, каб вучоба цікавіла вучня, а навучальна-выхаваўчы працэс захапляў і настаўнікаў, і вучняў.

Кніга ілюстравана каляровымі фотаздымкамі. Зробленыя ў розных кутках рэспублікі, яны арганічна дапаўняюць развaжанні А. Сачанкі.

Безумоўна, замежны чытач тут аказаўся ў выйгрышы. Ён атрымаў кнігу аб сучаснай беларускай школе. Між тым, на рускай мове ці беларускай яе проста не існуе. Выпадак унікальны! Што ж, час мяняе прыярытэты. Аднак ці не падумаць, каб, магчыма, расшыранае выданне кнігі ўсё ж атрымалі настаўнікі Беларусі.

**М. САВІЧ,**
**настаўнік.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Васіль ЗУЁНАК**

### ДУБЛЁР

Цяжка жыць гарадскому чорту:
Сто дамоў—і ні коміна ў іх,
Каб залезці зімой адвячоркам,
Адагрэцца, застацца ў жывых,
Раніцою выскачыць з дымам,
Рагатнуць у вуха багам...
...Кнопку цісну, і з пругкім
уздымам
Ліфт працуе—лёгка нагам!
Капыты не грымяць без
патрэбы,
І пры людзях хвастом
не тырчу,
І здаецца, у самае неба,
Нібы з коміна чорт, узлячу.

***

Апранулі ў апошняе маму,
Зберажонае, з пахам
крамным...
Свечкі след за аконнаю рамай:
На той свет пайшла тэлеграма.

І ляцяць мае думы няспынна:
Што табе тая прышласць
тоіць!
І з дзяцінства—чародка
ўспамінаў...
Як далёка было ўсё тое...

Я прытупваю на тапчане—
Скача радасць мая чапурная:
Мама лёлю пашыла мне,
Мама лёлю мне апранае...

Самы першы мой успамін:
Мне пашыла мама кашулю...
І сядзіць пасівелы сын:
Маму ў новае апранулі...

І агеньчык свечкі ў акне
Памнажаецца шыбай
падвойнай...
І цяпер я памерці вольны:
Ты не ўбачыш сына ў труне.

Мне памерці цяпер
не страшна,
Ты не ўбачыш смерці маёй.
І блукае мінулае наша
Над пустой, бязмэтнай
зямлёй...
Свечка зоркай апошняю
свеціць,
Ноч мінае, збіраюцца людзі...
Пройдзе ўсё і паўторыцца
ў свеце,
Толькі, мама, без нас тое
будзе...

**Адам ГЛОБУС**

### БІБЛІЯТЭКА

Пакліча ў падарожжа таямніца,
Схаваная ў недачытаны твор.
Пакліча да сваёй
першакрыніцы
Выдатны і шматтомны
кнігазбор.
Пайду да запаветнае паліцы
Праз каталожны доўгі к[illegible]ор.
Пайду няспешна, нібы
па ж[illegible]іцу,
У велічны сасновы дзіўны бор.
Зноў трапіцца разгорнутая
кніга
Пра мітусню, пра марнасць
і настрой,
Няўстойлівы, часовы, як [illegible]га,
Ды знойдзецца старонк[illegible]
на якой
Нясе паводкай зрушаныя крыгі
У акіян, у бездань і спакой.

### ЗІМОВЫ ЛЕС

Што ні раблю—адны памылкі
спрэс.
Я сам сабе ствараю
перашкоды.
Працуючы, калі патрэбен
продых,—
І праца ў рэшце рэшт губляе
сэнс.

Збяруся і паеду ў зімны лес,
Дзе існуе гармонія і згода,
Спакойна спіць зняМелая
прырода,
У белай форме—самы чысты
змест.

Не ведаю, ці дастаткова слоў,
Каб знікла спрацаванасць
і маркота,
А на душы з'явілася святло!

Але я спадзяюся і прашу,
Лясная ціша, дрэвы і сумёты,
На хвілю загаіце мне душу.

# ДАБРАЧЫННЫЯ КАНЦЭРТЫ

У Гомелі прайшлі дабрачынныя канцэрты амерыканскай групы «Клаб адобі».

«Клаб адобі» — гэта пяць музыкантаў з Лос-Анджэлеса, якія знаходзяцца цяпер на гастролях у СССР. Маршрут паездкі — Прыбалтыка, Масква, Ленінград... Ні Гомеля, ні якога-небудзь іншага горада Беларусі ў гастрольных планах не было. Змяніць маршрут вырашылі самі музыканты, каб даць два канцэрты ў Гомелі, а грошы перавесці ў фонд Чарнобыля.

Яны выступілі сумесна з гомельскімі студэнцкімі ансамблямі «Кансананс» і «Добры дзень вам!», а таксама мазырскай групай «Адлюстраванне», барабаншчык якой, Міхаіл Усаў, паспяхова замяніў амерыканскага калегу, які захварэў. І сапраўды мова музыкі не мае патрэбы ў перакладчыках.

Перад апошнім канцэртам мясцовыя тэлежурналісты прапанавалі музыкантам запісаць на адкрытым паветры некалькі песень для адной з перадач. Амерыканцы згадзіліся. Але на наступны дзень слупок тэрмометра апусціўся амаль на 10 дзяленняў ніжэй за нулявую рысу. Здымкі маглі сарвацца. Але музыканты «Клаб адобі» прыехалі. І цэлую гадзіну самаахвярна (інакш не скажаш!) спявалі на марозе перад тэлекамерамі.

— Мы хочам, каб людзі ў Беларусі ведалі, што мы — з імі,— вось так проста ўсё растлумачылі музыканты.

## ЗНОЙДЗЕНЫ РЭШТКІ СТАРАЖЫТНАГА АРХІВА

# РАТАВАЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА

Падчас вывучэння і навуковага апісання рукапісных фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна былі выяўлены раней не занатаваныя дакументы канца XVI стагоддзя (12 адзінак). Пап[illegible]рэдні аналіз паказаў, што большасць з іх была напісана ў перыяд з 1591 па 1599 год.

Знойдзеныя рукапісныя матэрыялы — разнастайныя па свайму зместу. Сярод іх —выпіскі з архіва Мінскага гарадскога суда, пастановы Трыбунала Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага, каралеўскія прывілеі і граматы, лісты прыватных асоб і інш. Усе 12 дакументаў напісаны скорапісам на старабеларускай мове, рознымі почыркамі. Нягледзячы на старадаўняе іх паходжанне, яны нядрэнна захаваліся і цяпер, пры неабходнасці, могуць быць поўнасцю прачытаны і надрукаваны (у перакладзе на сучасную мову альбо на мове арыгінала) з адпаведнымі навуковымі каментарыямі.

Папера выяўленых рукапісаў мае вадзяныя знакі (філіграні). На некаторых з дакументаў захаваліся аўтографы і пячаткі беларускіх князёў.

Выключную цікавасць уяўляе «Пастанова Трыбунала Вялікага княства Літоўскага» ад 28 снежня 1591 года па справе паміж мяшчанамі Мінскага павета Якубам Яцковічам Рэкуцём і яго жонкай Ганнай Сарошаўнай Рымшанкай — з аднаго боку, і Шымонам Мацяевічам і яго жонкай Кацярынай Шымкоўнай Барташэвіч — з другога. Рашэнне выязнога трыбунальскага суда, які адбыўся ў Мінску, уласнаручна падпісалі суддзі, вядомыя на той час беларускія магнаты — Ян Друцкі-Горскі, Геранім Пякарскі і Багдан Масальскі.

Некаторыя іншыя дакументы звязаны з асобай беларускага князя Багдана Саламярэцкага, праслаўленага старасты крычаўскага і лучацкага.

Знойдзеныя рукапісы, несумненна, маюць вялікую гістарычную каштоўнасць. Яны могуць быць выкарыстаны вучонымі-медыявістамі ў самых розных напрамках даследчыцкай працы. Лінгвістаў зацікавяць асаблівасці мовы гэтых дакументаў, палеографаў — адметнасці скорапісу і почыркаў, а тых, хто вывучае геральдыку Беларусі, — шматлікія выявы і пячаткі беларускіх князёў.

На жаль, прасачыць гісторыю выяўленых рукапісаў, вызначыць іх першага гаспадара і месца ранейшага захавання цяпер немагчыма. Прычына таму, можна сказаць, традыцыйная — адсутнасць усялякіх дадатковых звестак. Больш таго, невядомы нават час іх паступлення ў аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. Вывучэнне старых інвентароў не дало ніякіх станоўчых вынікаў. Праўда, можна думаць, што ўсе гэтыя рукапісы патрапілі ў бібліятэку яшчэ да вайны, а інвентары, куды яны былі ўнесены, згубіліся падчас акупацыі і вывазу фондаў бібліятэкі ў Германію.

Мяркуючы па характару знойдзеных дакументаў, яны некалі з'яўляліся часткай аднаго вялікага архіва, якіх, як вядома, на тэрыторыі Беларусі ў старажытныя часы было вельмі шмат. Дастаткова толькі нагадаць, што ў XVI—XVIII стагоддзях на Беларусі існавала больш двух дзесяткаў архіваў павятовых судоў, архівы магістратаў гарадоў з магдэбургскім правам, а таксама архівы Вялікай канцылярыі і Трыбунала, якія папаўняліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Апрача таго, свае незалежныя архівы мелі рамесніцкія цэхі, брацтвы, манастыры і цэрквы. А калі да гэтага дадаць, што ўсе без выключэння беларускія князі, буйныя магнаты, а таксама шляхта і асобныя адукаваныя гараджане мелі свае сямейныя сховішчы рукапісаў, дзе яны захоўвалі каралеўскія прывілеі, пастановы судоў, рукапісныя літаратурныя творы, мемуары аб сваіх продках і г. д., то спатрэбіцца даволі вялікая трох-, а то і чатырохзначная лічба, каб зафіксаваць іх колькасць.



Як бачна, сёння мы можам толькі канстатаваць, што многія з найбагацейшых беларускіх старажытных збораў ужо незваротна загінулі, іншыя — раскіданы па розных савецкіх і замежных сховішчах. Але і да гэтага часу там-сям па чыёйсьці нядбайнасці і абыякавасці знішчаюцца пазбаўленыя належнага догляду выключна каштоўныя помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Відаць, ужо прыйшоў час, калі самім беларусам трэба паклапаціцца аб сваёй культуры і прыкласці ўсе намаганні для таго, каб як мага хутчэй спыніць працэс пазбаўлення сябе гістарычнай памяці, бо за іх гэтага ніхто не зробіць!

Навуковай грамадскасці ды, мусіць, і ўраду неабходна прыняць тэрміновыя меры па шырокім выяўленні ўсіх фондаў, дзе захоўваюцца старабеларускія рукапісы, стварыць вопісы і каталогі, распачаць працу па ажыццяўленні навуковых выданняў архіўных дакументаў і, нарэшце, па магчымасці, вяртаць помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці на радзіму.

**І. САВЕРЧАНКА,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**Л. СТАНКЕВІЧ,**
**галоўны бібліёграф Дзяржбібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

***ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА БІЯТЛОНУ Ў РАЎБІЧАХ***

# ДЗЕНЬ ПЕРШЫ І... АПОШНІ

Сумна атрымалася: толькі-толькі пачаліся спаборніцтвы, а іх прыйшлося адмяніць. І не па віне арганізатараў. Тут яны пастараліся на славу, бо мелі вялікі вопыт правядзення чэмпіянатаў свету.

Першы з іх прайшоў тут у 1974 годзе, калі будаўнікі ўручылі сімвалічны ключ ад спартыўнага комплексу «Раўбічы», што пад Мінскам, шматразоваму пераможцу Алімпійскіх гульняў, свету капітану зборнай СССР па біятлону Аляксандру Ціханаву. Залатым знакам Міжнароднага саюза сучаснага пяцібор'я і біятлона адзначана першынство 1982 года.

Але гэта не значыць, што комплекс заставаўся ў першапачатковым выглядзе да нашых дзён. Да кожнага чэмпіянату свету ён рэканструяваўся. Не абышлося без рэканструкцыі і на гэты раз.

Колькі ж спатрэбілася грошай, каб пабудаваць новыя домікі для спартсменаў, адміністрацыйныя карпусы, стрэльбішча? Прыкладна такім было першае пытанне журналістаў, адрасаванае старшыні Аргкамітэта чэмпіянату свету-90, мэру Мінска Уладзіміру Міхасёву. Сотні і сотні тысяч, адказаў Уладзімір Іванавіч.

Такі адказ не мог не выклікаць здзіўлення: рэспубліка — на самафінансаванні, кожную капейку ашчадна траціць на рашэнне харчовай жыллёвай і іншых праграм. Ці не марнатраўства сродкаў гэта?

Па-першае, адзначыў мэр, у чэмпіянату свету было многа спонсараў: вядомая замежная фірма ОМФ (Ота Макс Фішар), сумеснае савецка-аўстрыйскае прадпрыемства «ВАІ ТІСДАМА ЕІ ІS», вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», мінскі завод «Электроніка», наваполацкі «Вымяральнік» і многія іншыя. Значную суму грошай выдзеліў і Дзяржкамспорт СССР.

Яшчэ на адзін вельмі важны момант указаў Уладзімір Міхасёў. Сродкі, якія пайшлі на рэканструкцыю спорткомплексу, акупяцца... здароўем людзей. Бо «Раўбічы» разлічваліся не толькі на першынствы рэспублікі, краіны, свету. Пасля сёлетняга чэмпіянату планавалася адкрыць трасу для катання на лыжах для ўсіх жадаючых.

Адно хвалявала арганізатараў спаборніцтваў: якім будзе надвор'е 18—25 лютага? Са снежня мінулага года ў Раўбічах адсутнічаў снег. Праўда, нехта прапанаваў завезці яго з Віцебскай вобласці па чыгунцы. Але такі варыянт не падыходзіў. Спатрэбілася б не адна тысяча рублёў на транспарціроўку. І тут мясцовыя жыхары падказалі, што снег ёсць літаральна ў некалькіх кіламетрах. Захаваўся ён ля вёсак Чудзенічы і Дзяніскі. Здавалася б, пагроза зрыву спаборніцтваў мінавала. І вось ужо салдаты, студэнты мінскіх інстытутаў, школьнікі і проста аматары спорту ўключыліся ў нарыхтоўку снегу, які на самазвалах сталі дастаўляць на трасу комплексу і ўкладваць на дыстанцыі маючых адбыцца гонак. А тут яшчэ напярэдадні цырымоніі ўрачыстага адкрыцця першынства свету крыху падмарозіла, пайшоў снег.

...Раніца 18 лютага. Амаль без інтэрвалаў пад'язджаюць аўтобусы з Мінска, іншых гарадоў рэспублікі, дастаўляюць гледачоў, аматараў спорту, замежных гасцей і ўдзельнікаў саміх спаборніцтваў.

Прыезджыя адразу трапляюць у імправізаваныя «глядзельныя залы», дзе гучыць вясёлая беларуская песня, на гульневыя пляцоўкі — калі ты спрытны, то і прыз зможаш здабыць... Дзеці катаюцца на крутыя горкі, адкуль кулём скочваюцца ўніз.

Быццам і на тых, мінулых чэмпіянатах свету, нешта падобнае было. Але сёлета настрой, здаецца, лепшы. Мо толькі ў мяне?.. І таму спрабую пагутарыць з удзельнікамі свята.

**Валерый МАКАРЭВІЧ, рабочы аўтамабільнага завода.**




— Я быў на папярэдніх чэмпіянатах свету. Сутыкнуўся тады не з адной праблемай. Узяць транспарт. У 1982 годзе не змог своечасова сесці ў аўтобус у Мінску — вялікая чарга. Таму спазніўся на адкрыццё. Памятаю, што дрэнна паснедаў. Прыйшлося каля гадзіны стаяць у чарзе за бутэрбродамі. Якое гэта свята, калі настрой сапсаваны з самай раніцы! А сёння і дзесяці хвілін не стаяў за шашлыкамі.

**Ірына ГАРАДЗЕЦКАЯ, швачка аднаго з атэлье Мінска.**

— Мне больш спадабаўся асартымент тавараў прамысловых кіёскаў: сувеніры, значкі.

Вельмі хацелася б пачуць пра наша свята ў Раўбічах ад каго-небудзь з-за мяжы. І вось пасля парада камандудзельніц у прэс-цэнтры гутару з **вядомай балгарскай біятланісткай Цвятанкай КРАСЦЕВАЙ.**

— О, свята! Болей не пайду туды (паказвае ў бок скамарохаў): так насмяшылі, што паслязаўтра кепска выступлю. А яшчэ ад трэнера папала: на парад ледзь не спазнілася... Ну а калі сур'ёзна, то вельмі весела было ўсім.

Магу спрачацца з Цвятанкай, што не ўсім. Сам бачыў, якімі заклапочанымі хадзілі трэнер зборнай Нарвегіі Йоні Ронгстад, наш галоўны трэнер краіны Аляксандр Прывалаў ля трасы гонкі і па стрэльбішчы. І было ад чаго. Кожны загадзя распрацоўваў тактыку будучых стартаў: якую змазку прымяніць, каго з лыжніц паставіць пад першымі, а каго пад апошнімі нумарамі на дыстанцыі — як бы не прагадаць у чым.

Ды і не ўсім землякам Красцевай удавалася павесяліцца. Тут я маю на ўвазе не саміх спартсменаў і іх трэнераў, а спецыяльную дэлегацыю, якая прыбыла ў Раўбічы, каб пераняць вопыт правядзення чэмпіянату свету. Вельмі ж шмат спраў было ў нашых сяброў з брацкай краіны. Гэта ж не жартачкі — упершыню правесці ў сябе ў 1993 годзе спаборніцтвы «страляючых лыжнікаў»! Як арганізаваць культурную праграму, якую трасу зрабіць, дзе размясціць спартсменаў — хіба ж мала праблем хвалявала будучых гаспадароў першынства свету па біятлону.

Кожнаму сваё. Нас жа, беларускіх спартыўных журналістаў, хвалявала адно пытанне: ці дадуць магчымасць трэнеры зборнай СССР выступіць мінчаніну Сяргею Булыгіну і Святлане Парамыгінай з Наваполацка? Першы — алімпійскі чэмпіён, чэмпіён свету. Святлана ж добра зарэкамендавала сябе ў апошніх міжнародных спаборніцтвах. Да таго ж памяталі мы паспяховае выступленне тут, у Раўбічах, на мінулых першынствах свету беларускіх біятланістаў Юрыя Калмакова, Віктара Сямёнава, Мікалая Праваліцкага, Вячаслава Талкачова, Канстанціна Вайгіна. Дома, як кажуць, і сцены дапамагаюць.

Дваццаць пяць краін вырашылі паслаць сваіх спартсменаў на чэмпіянат свету, дзе разыгрывалася 176 медалёў, а таксама многа розных прызоў. Прыемным сюрпрызам стаў прыезд у Раўбічы прадстаўнікоў Аўстраліі, Паўднёвай Карэі, Новай Зеландыі.

Дзесяткі тысяч савецкіх аматараў спорту прыехалі ў Раўбічы, каб падтрымаць сваіх спартсменаў. З замежных жа каманд найбольшую падтрымку атрымалі нарвежцы. Больш трох дзесяткаў турыстаў гэтай краіны яшчэ да старту на аўтобусах дабраліся да спорткомплексу. Апранутыя ў аднолькавае, пад колер белых бяроз, адзенне, яны выдзяляліся сярод усіх балельшчыкаў. Дружным «оп! оп!» нарвежцы падтрымлівалі сваіх землякоў, якія, праўда, не дамагліся прызавых месцаў. Гэту няўдачу турысты з Нарвегіі ўспрынялі, як сапраўдныя джэнтльмены: сваіх не сталі папракаць, а прызёрам наладзілі авацыю, калі тыя ішлі на сустрэчу з журналістамі ў прэс-цэнтр.

Але вернемся да пачатку спаборніцтваў. Яны пачаліся індывідуальнай гонкай жанчын на пятнаццаць кіламетраў. Якую тактыку выбралі трэнеры? Нашы сваіх мацнейшых біятланістак паставілі ў сярэдзіну стартуючых — Святлана Давыдава нумар 28-мы, Алена Галавіна — 31-шы... Трэнер жа з ФРГ Увэ Мюсінганг палічыў лепшым паставіць лідэра сваёй каманды Петру Шааф ледзь не апошняй (нумар 50-ты) у спісе кандыдатаў на перамогу. Такую тактыку выбраў і трэнер з Нарвегіі.

Чыя стратэгія лепшая? Хто мацнейшы? У савецкіх біятланістак галоўны козыр — хуткі бег. У Петры Шааф, нарвежскіх і шведскіх спартсменак — надзея на стральбу.

Барацьба была вельмі напружаная. Спачатку на табло спорткомплексу доўгі час першы радок займае Алена Бацэвіч — 54 мінуты 40,8 секунды (СССР). Потым вы[illegible]а фінішуе яе сяброўка па камандзе Святлана Давыдава — 51 мінута 53,4 секунды. Але яе ніхто не спяшаецца віншаваць з перамогай: два промахі ў стральбе могуць дорага абысціся. Як на[illegible]жаны нервы! Бачна, што [illegible]тлана вельмі хвалюецца. Вось, нарэшце, прыходзіць паведамленне з трасы, што галоўныя саперніцы значна ўступаюць па часе. Так, фінішуюць усе мацнейшыя. Можна падвесці вынікі. Першай чэмпіёнкай стала Святлана Давыдава! Сярэбраная ўзнагарода яшчэ ў адной савецкай спартсменкі — Алены Галавіной. І трэцяе месца дасталася Петры Шааф. Заходнегерманская спартсменка не хавае сваёй радасці:

— У сёлетнім сезоне я не паказвала на спаборніцтвах добрых вынікаў. І тут, у Раўбічах, не разлічвала на прызавое месца. Прыемна, што такім шчаслівым для мяне аказаўся беларускі спорткомплекс.

Найбольшую колькасць пытанняў, вядома, журналісты адрасавалі чэмпіёнцы. Удалося пагутарыць са Святланай Давыдавай і мне. Вось што яна расказала:

— Нарадзілася я на Урале. Спачатку займалася бегам на лыжах. Аднойчы прыйшло жаданне пакінуць спорт. І тут мне трапіўся добры чалавек, мой першы трэнер Генадзь Вепраў. Ён парэкамендаваў мне «крышачку пастраляць». Паспрабавала — атрымалася. Хаця, лічу, ды і вы самі бачыце, што ў стральбе не заўжды ўсё атрымліваецца. Каб сёння не дапусціла промахаў мая сяброўка і зямлячка Алена Галавіна, не быць мне чэмпіёнкай. Магчыма, вельмі хвалявалася... Што датычыцца галоўных саперніц, то яны вось перад вамі: Алена, Петра, Крысціансан з Нарвегіі, Красцева з Балгарыі...

Ведаючы, колькі працы прыйшлося ўкласці, каб стварыць (іншага слова і не падабраць!) трасу, не мог не пацікавіцца ў прызёраў іх думкай аб пракладзенай лыжні. Адказы былі кароткімі.

**Святлана ДАВЫДАВА:**

**— Траса вельмі складаная. Такія ёсць у Фінляндыі ці можа яшчэ ў Нарвегіі. Але падрыхтавана выдатна для такога надвор'я.**

**Алена ГАЛАВІНА:**

**— Раўбічы для мяне шчаслівыя. Я больш разлічвала на сябе. Навошта гаварыць нешта кепскае пра трасу, калі ў самой не ўсё атрымалася.**

**Петра ШААФ:**

**— Якія могуць быць прэтэнзіі да трасы ў чалавека, які заняў прызавое месца!**

...Не дарэмна Святлана Давыдава, хоць і стала чэмпіёнкай, упікала сябе за стральбу. Усяго адзін промах дапусціў Юрый Кашкароў у гонцы на дваццаць кіламетраў, якая адбылася адразу пасля спаборніцтваў жанчын, а гэта каштавала яму медаля.

Праўда, тут поспех савецкіх спартсменаў над саперніkамі аказаўся больш чым пераканаўчым. Не будзем падрабязна разбіраць перыпетыі барацьбы на гэтай дыстанцыі, скажам толькі, што яны заваявалі чатыры першыя месцы ў такім парадку: 1. Валерый Мядзведцаў. 2. Сяргей Чэпікаў, 3. Анатолій Ждановіч. 4. Юрый Кашкароў. Такога трыумфу савецкія спартсмены яшчэ не ведалі.

А прадстаўнікі Беларусі? Яны ў першы дзень не стартавалі. Як паведаміў галоўны трэнер СССР Аляксандр Прывалаў, Сяргей Булыгін і Святлана Парамыгіна павінны былі выступіць у наступныя дні.

На жаль, не выступілі. Бо так добра арганізаванае свята спорту сапсавала надвор'е. Рэзкае пацяпленне, да плюс дзесяці градусаў, сонца ператварылі трасу ў месіва. І таму УІПМБ, які цяпер узначальвае масквіч Ігар Новікаў, і капітаны каманд прынялі рашэнне завяршыць чэмпіянат у Фінляндыі 8—11 сакавіка ў час правядзення чарговага этапу Кубка свету.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: прызёры першынства свету па біятлону ў Раўбічах у гонцы на дыстанцыі 15 кіламетраў сярод жанчын.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

Індэкс 63854. Зак. № 296